www.nv-online.info

№ 56 (4205)

18 ліпеня 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою.*
**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

*«Народная Воля»*
в Twitter www.twitter.com/narodnaya_volya
в Facebook www.facebook.com/nv.online.info
в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo

З МЕСЦА ПАДЗЕІ

# Беларусы свету і ўлада

На Сёмым з'ездзе беларусаў свету, які адбываўся ў Міжнародным адукацыйным цэнтры імя Ёганэса Рау ў мінулыя выхадныя, прозвішча Аляксандра Лукашэнкі першы раз прагучала недзе толькі праз дзве гадзіны пасля пачатку працы форуму. У пазітыўным кантэксце яго згадаў не хто іншы, як першы міністр замежных спраў суверэннай Беларусі Пётр Краўчанка. Наогул жа прадстаўнікі ўлады паводзілі сябе на з'ездзе надзвычай лаяльна. Цяперашні міністр замежных спраў Уладзімір Макей на добрай беларускай мове казаў пра тое, што для яго "вялікі гонар" быць на такім мерапрыемстве, што беларусы ўсяго свету, незалежна ад іх перакананняў, могуць разлічваць на рознага кшталту дапамогу з боку яго ведамства, а таксама ад беларускіх пасольстваў у розных краінах. Асобна Уладзімір Макей адзначыў той факт, што, паводле вядомых яму вынікаў апытанняў грамадскай думкі ў Беларусі, сёння не менш як 70% яе жыхароў адназначна падтрымліваюць існаванне незалежнай Беларускай дзяржавы.

Прыкладна ў такім духу выступаў і намеснік міністра культуры Васіль Чэрнік. Наўпрост ці ўскосна ўлады атрымалі пахвалу і ад намесніцы старшыні Таварыства беларускай мовы, дэпутата Палаты прадстаўнікоў Алены Анісім і ад дэпутата Вярхоўнага Савета 12-га склікання, цяпер прафесара гісторыі Валянціна Голубева, які быў адным з асноўных дакладчыкаў на з'ездзе. Дарэчы, у форуме бралі ўдзел больш як 250 дэлегатаў, прычым амаль палова з іх прыехала з замежжа на запрашэнне Міжнароднага грамадскага аб'яднання "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына".

Гэтую амаль ідылічную карціну ў першы дзень працы з'езда крыху папсавалі дэлегаты з'езда, якія прыехалі ў Мінск з далёкага замежжа. Выступаючы ад імя Згуртавання беларусаў Канады, Валянціна Шаўчэнка сказала шчыра і адкрыта: супрацоўніцтва не арганізацыі з цяперашняй уладай у Беларусі не ўяўляецца магчымым, пакуль у краіне не будзе свабодных выбараў і пакуль тут будуць прыдумляцца рэчы кшталту "справы "Белага легіёна". У падобным духу выступіў прадстаўнік Беларуска-Амерыканскага Задзіночання Вячаслаў Бортнік, беларус са Злучаных Штатаў Амерыкі: ён падкрэсліў, што яго арганізацыя самым актыўным чынам удзельнічае на самых розных узроўнях праблему пераследу беларусаў на радзіме за іх палітычныя перакананні. У адказ, не зважаючы на рэгламент, Уладзімір Макей узяў слова і пачаў пераконваць прысутных у тым, што не ўсё так, як падаецца…

Першы кіраўнік незалежнай Беларусі Станіслаў Шушкевіч пракаментаваў словы высокіх чыноўнікаў у сваім інтэрв'ю Радыё Свабода і ў размове з аўтарам гэтых радкоў: "Не можа быць сапраўднага яднання катаў і ахвяр. Улада павінна адмовіцца ад тактыкі прыніжальнага стаўлення да тых, хто не падзяляе яе погляды". У такім духу на з'ездзе выступілі не толькі іншыя беларусы з замежжа (як, напрыклад, кіраўнік Згуртавання беларусаў Вялікабрытаніі Мікола Пачкаеў), але і мой калега-дэпутат таго самага Вярхоўнага Савета 12-га склікання Юрый Беленькі. Дэлегат з'езда з Масквы Алег Краўцоў у сваю чаргу задаў рытарычнае пытанне: калі беларуская, паводле сваёй назвы, дзяржава не хоча быць беларускай па-сапраўднаму, калі ў гэтай дзяржаве адсутнічаюць дэмакратычныя гарантыі існавання яе грамадзян, то чаму беларусы свету павінны *такую* дзяржаву падтрымліваць?

Напярэдадні пачатку з'езда адбыўся прыкры інцыдэнт, пра які таксама згадвалі ўдзельнікі Сёмага з'езда беларусаў свету. Першаіерарх Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы Святаслаў Логін (сябра Вялікай рады "Бацькаўшчыны"), які ехаў на форум праз Украіну, быў напачатку не прапушчаны ў Беларусь яе памежнымі службамі. Праўда, назаўтра гэтае дзіўнае рашэнне было адменена, і айцец Святаслаў усё-такі на з'езд даехаў, хоць і са спазненнем.

У залу пасяджэнняў з'езда таксама здолелі прайсці некалькі правакатараў, якія пад выглядам "гасцей са Смаленска" паспрабавалі разгарнуць лозунг за "рускій мир", але ахова і самі ўдзельнікі форуму беларусаў хутка гэтую выхадку спынілі…

(Заканчэнне на 2-й стар.)

ФОТАГАЛЕРЭЯ

## Такія мы – беларусы

Яраслаў Іванюк, дэлегат З'езда беларусаў свету ад Падляшша (Польшча), зрабіў нізку фотапартрэтаў яго ўдзельнікаў. Бялявыя, чарнявыя, строгія, мяккія… Вось такія мы – беларусы цяпер.

Вядома ж, змясціць на старонках "Народнай Волі" ўсе здымкі Я.Іванюка немагчыма, публікуем толькі некаторыя.


Таццяна Расмусен з Даніі.


Надзея Нортан з ЗША.


Алег Рудакоў з Іркуцка (Расія).


Гісторык Валянцін Голубеў (Мінск).


Алег Краўцоў з Масквы.


Паэтка Іна Дзідык (Снарская) з Палтавы (Украіна).


Пісьменнік Валерый Казакоў з Масквы.


Валерый Мазынскі, рэжысёр (Мінск).

ТОЧКА ЗРЕНИЯ

Александр ФЕДУТА

# Кто увидит суслика?

15–16 июля в Минске прошел Седьмой съезд белорусов мира. Ознаменован он был тем, что на нем впервые за долгие годы – практически после первого такого съезда, сопредседателем оргкомитета которого был еще Петр Кравченко, – выступил министр иностранных дел Беларуси Владимир Макей.

Речь Владимира Владимировича, скромно названная «приветственным словом», на самом деле носила характер своеобразного манифеста – так сказать, манифеста очередной «лукашенковской оттепели». В ней содержалось несколько существенных моментов.

Во-первых, министр констатировал пребывание за рубежом более четырех миллионов белорусов – тех, кого судьба занесла далеко от родины. По его словам, это огромная сила, обладающая несомненным лоббистским потенциалом, который необходимо использовать ради будущего Беларуси. Нужно отметить – да, впрочем, читатели и так увидели, без моих отметок, – насколько этот тезис отличается от привычной риторики государственных пропагандистов: обычно старшее поколение наших соотечественников, живущих за границей, у нас именуется «наследниками полицаев», а младшее обвиняется в подрывании политической оппозиции. Здесь же тон был даже не нейтральным, а вполне доброжелательным.

Во-вторых, опираясь на цитаты президента (который, вероятно, 15 июля мог стать заикой, настолько часто его цитировали), Владимир Макей провозгласил высшую ценность суверенитета Беларуси и необходимость – во имя защиты этой ценности – консолидировать усилия и сплотиться, забыв политические, религиозные и иные противоречия. При этом в качестве главного аргумента приводились перемены, происходящие в обществе и государстве. В кулуарах потом, правда, некоторые остряки сравнивали эти перемены с сусликом из памятного анекдота: суслика никто не видел, но он есть. Вот так и перемены в отношениях между государством и зарубежной диаспорой, по мнению министра, существуют, причем они весьма ощутимы.

Но лично я обратил внимание еще на одно обстоятельство.

Съезд не носил политического характера, несмотря на присутствие ряда оппозиционных деятелей, и в итоговых документах не было даже призыва прекратить строительство АЭС: идею строительства неожиданно поддержал член-корреспондент НАН РБ Станислав Шушкевич, заявивший, что идея энергетической независимости Беларуси должна взять верх над радиофобией. Пожалуй, лишь выступление делегатки из Канады акцентировало внимание собравшихся на арестах, случившихся весной, на отсутствии реального прогресса в вопросе соблюдения прав человека и т.д. Нужно отметить, что Владимир Макей принял вызов Валентины Шевченко и дал развернутый комментарий в духе «нужно видеть прогресс, который есть» – и дальше перечислял все, что, с его точки зрения, свидетельствует о прогрессе, а также нарисовал картину светлого будущего страны и людей. Разумеется, говорил он и о постоянном расширении сферы употребления белорусского языка, интереса к белорусской культуре, обещал максимальную поддержку белорусским организациям за пределами страны.

Правда, во втором его выступлении я насчитал примерно шесть раз употребленное выражение «по моему мнению» (вариант: «с моей точки зрения», «я думаю» и т.д.). То есть министр, как можно понять, высказал на хорошем белорусском языке, скорее всего, свое личное мнение, а вовсе не концепцию государственной политики.

И от этого ощущение, что нам пытаются предложить не реальный прогресс, а уже упомянутого суслика, почти незаметного для глаз персон, не работающих министрами, усилилось. Уже после съезда один из делегатов разочарованно написал на странице в «Фейсбуке»: «Пообещал много, а сделает ли? Был ведь уже Латушко, тоже на белорусском говорил, мы ему поверили, а его и услали послом. Может, лучше русскоязычный министр, но чтобы слово сдержал?»

Не соглашусь со скептиком. Лучше как раз, чтобы и белорусскоязычных министров было больше, и чтобы слово они могли сдержать. Однако нужно признать, что отвечают они за свои слова лишь в пределах полномочий своего ведомства и лишь до той поры, пока занимают соответствующий пост. Поэтому, вероятно, Владимир Макей и осторожничал, не акцентируя внимания на официальной политике, при этом – как и положено вполне лояльному к руководству страны чиновнику – защищая эту политику всеми имеющимися в его арсенале способами. Тем не менее будем считать, что суслик из норки высунулся и надежда на прогресс действительно есть.

Обращу внимание на еще один факт. В добровольной дружине, обеспечивавшей порядок на съезде, было много знакомых лиц, совсем недавно еще находившихся за решеткой по так называемому «делу патриотов». Вы знаете, не только Макей не испугался, но и они не пытались устроить массовые беспорядки. Что в данном случае свидетельствует о разумной позиции обеих сторон.

Осталось лишь начать диалог официального Минска не только с зарубежными белорусами, но и с собственными гражданами. Жаль, что это решение принимают не мидовские суслики. Не их полномочия.

СКАЗАНА!



Аляксандр ЛУКАШЭНКА:

**«Менавіта дыпламаты павінны прадэманстраваць свае ўменні, каб, вобразна кажучы, не даць аніякай магчымасці звяртацца да сілавога вырашэння спрэчных пытанняў».**

Такую высновы зрабіў беларускі прэзідэнт учора падчас сустрэчы з міністрамі замежных спраў дзяржаў – членаў Арганізацыі Дагавора аб калектыўнай бяспецы (АДКБ). «*Сітуацыя ў свеце трывожная, таму неабходна надаваць самую пільную ўвагу пытанням бяспекі дзяржаў. Пры гэтым не толькі з ваеннага пункту гледжання, але і з палітычнага*», – лічыць Лукашэнка.

Назіраецца пашырэнне геаграфіі і сфер сутыкнення інтарэсаў як асобных краін, так і цэлых кааліцый, асабліва агульнапрызнаныя інструменты падтрымання міжнароднага міру і бяспекі і «*як следства – множацца спробы парушэння балансу сіл*», адзначыў А.Лукашэнка.

Найвастрэйшымі выклікамі сучаснасці з'яўляюцца тэрарызм, наркатрафік, нелегальная міграцыя, гандаль людзьмі, кіберзлачыннасць.

ВІЗІТ

## У Мінску дэлегацыя Еўрапарламента

Як паведамляе прэс-служба прадстаўніцтва Еўрасаюза ў Мінску, гэта другі афіцыйны візіт у Беларусь прадстаўнікоў Еўрапарламента на чале з кіраўніком дэлегацыі ЕП па сувязях з Беларуссю **Богдана Здраеўскага.**

У складзе дэлегацыі парламентарыі Германіі, Латвіі, Літвы і Польшчы, якія прадстаўляюць чатыры палітычныя групы Еўрапейскага парламента.

Дэлегацыя сустрэнецца з прадстаўнікамі ўрада і парламента Беларусі, каб «*абмеркаваць ключавыя пытанні двухбаковых адносін ЕС і Беларусі і перашкоды на шляху да больш цеснага супрацоўніцтва, якія яшчэ застаюцца*».

Дэлегацыя таксама сустрэнецца з прадстаўнікамі апазіцыі і грамадзянскай супольнасці, каб «*даведацца аб іх дзейнасці і перашкодах, з якімі яны сутыкаюцца*».

**Таццяна КАРАВЯНКОВА, БелаПАН.**

«СЛАВЯНСКІ БАЗАР»

## Гран-пры падзеляць на дваіх?

### *Беларус і ўкраінец падзялілі першае месца ў Віцебску.*

**Ягор Шаранкоў і Улад Сытнік** набралі роўную колькасць балаў па выніках двух дзён фіналу XXVI Міжнароднага конкурсу выканаўцаў эстраднай песні «Віцебск-2017».

У чацвёрку лідараў увайшлі таксама выканаўцы з Расіі і Сербіі. Між тым сярод удзельнікаў былі нават госці з такіх далёкіх краін, як Калумбія і Мексіка.

Улад Сытнік нарадзіўся ў Луганску, але жыве ў Кіеве. Са сцэны пажадаў беларусам і наогул усім мірнага неба над галавой.

Паводле ўмоў конкурсу, Гран-пры даюць, калі ўдзельнік апярэджвае бліжэйшага канкурэнта мінімум на 3 балы.

**Аліна ВЕТРАВА.**

ПАМЯТЬ

# Послезавтра будет год, как в Киеве погиб известный белорусский журналист Павел Шеремет



20 июля 2016 года автомобиль, в котором он ехал на работу, взорвали в центре Киева. Машина принадлежала гражданской жене Шеремета, руководителю интернет-издания «Украинская правда» **Алене Притуле**, однако ее самой в авто не было. Полиция квалифицировала взрыв авто с Шереметом как умышленное убийство.

22 июля в сети появилась видеозапись с камер наблюдения, на которой зафиксирован момент закладки взрывчатки под автомобиль.

По делу Шеремета было проведено независимое журналистское расследование. В нем говорится, в частности, что возле дома журналиста находился сотрудник Службы безопасности Украины **Игорь Устименко**. В СБУ заявили, что Устименко уволили из ведомства в 2014 году. Полиция его уже допросила.

В мае этого года генеральный прокурор Украины **Юрий Луценко**, отчитываясь в Верховной Раде, заявил, что в деле по убийству Шеремета следствие допустило ошибку, не изъяв одну из важнейших видеозаписей. Эта ошибка, по словам министра внутренних дел Арсена Авакова, вынуждает сейчас перепроверять все материалы дела.

*"Есть 7 процентов убийств, которые полиция не может раскрыть. Дело Шеремета попало в эти 7 процентов"*, – отметил Аваков.

Павел Шеремет был похоронен 23 июля в Минске.

(Продолжение на 3-й стр.)

ГАЗЕТА – ЧЫТАЧЫ

## Каб не застацца ў жніўні без «Народнай Волі»…

***Шаноўныя прыхільнікі "Народнай Волі"! Ведаем, некаторым з Вас неабходна пераафарміць падпіску. Каб не застацца ў жніўні без "Народнай Волі", зрабіце гэта, калі ласка, да 26 ліпеня.***

**Вы – з «Народнай Воляй», «Народная Воля» – з Вамі!**

З МЕСЦА ПАДЗЕІ

# Беларусы свету і ўлада

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

У цэлым, аднак, праца з'езда праходзіла ў добразычлівай атмасферы, хоць шматлікія выступоўцы і не хавалі сваёй трывогі за будучыню незалежнай Беларускай дзяржавы. У прамовах дэлегатаў і гасцей гучалі перасцярогі перад магчымымі наступствамі запланаваных на восень гэтага года супольных расійска-беларускіх вайсковых манеўраў. Той жа Валянцін Голубеў адзначыў, што "дзяржава можа разлічваць на падтрымку незалежнай грамадзянскай супольнасці ў тым выпадку, калі яе захады па ўмацаванні суверэнітэту Беларусі не будуць абмяжоўваць прыгожымі дэкларацыямі".

Прапаноў да беларускіх улад, пачынаючы ад стварэння рэальнага механізму дзеяння прынятага яшчэ ў 2014 годзе закона аб беларусах замежжа да нявырашанай дагэтуль даўняй праблемы стварэння ў нашай краіне хоць бы аднаго ўніверсітэта з беларускай мовай навучання, гучала шмат. Большасць гэтых прапаноў так ці інакш знайшла адлюстраванне ў выніковых рэзалюцыях з'езда. Пазітыўна мяне ўразілі, аднак, найперш тыя дэлегаты, хто браў слова і расказваў, як беларусы за мяжой не толькі супольна ладзяць розныя культурныя мерапрыемствы, але і ствараюць свой бізнес, прыбыткі ад якога скіроўваюць на падтрымку стваральнай дзейнасці нашых суайчыннікаў і ў Беларусі, і па-за яе межамі.

Ці адбылося яднанне беларусаў Айчыны і замежжа ў выніку іх чарговага з'езда? У адным, безумоўна, так. З гісторыі вядома, як некалі варагавалі між сабою знатныя беларускія роды Сапегаў і Радзівілаў. Цяпер жа адзін з кіраўнікоў швейцарскай беларускай суполкі Аляксандр Сапега прывёз са сваёй цяперашняй краіны урну з прахам княгіні Магдалены Радзівіл, адной з галоўных фундатарак беларускага Адраджэння пачатку ХХ стагоддзя. Дэлегаты з'езда беларусаў свету аднадушна падтрымалі ініцыятыву сваякоў княгіні пра перазахаванне яе парэшткаў у цэнтры Мінска, каля касцёла Святых Сымона і Алены, і прынялі адпаведны зварот да мінскіх гарадскіх улад і да старшыні кангрэгацыі беларускіх каталіцкіх біскупаў айца Тадэвуша Кандрусевіча.

Напрыканцы з'езда былі праведзены выбары новага кіраўніцтва ЗБС "Бацькаўшчына". Тут ніякіх нечаканасцяў не адбылося: старшынёй арганізацыі на наступных чатырохгадовы тэрмін была абрана Алена Макоўская, а кіравац Радай надалей будзе Ніна Шыдлоўская.

Для мяне асабіста чарговы форум запомніўся тым, што я меў нагоду і магчымасць паразмаўляць на самыя розныя тэмы з выдатнымі беларусамі – Віктарам Скорабагатавым і Анатолем Вярцінскім, Станіславам Шушкевічам і Валянцінай Шаўчэнка, Яўгенам Вапам і айцом Святаславам Логінам…

Шкада толькі, што такі прадстаўнічы з'езд прайшоў фактычна ў закрытым рэжыме: на маю асабістую думку, кіраўніцтва "Бацькаўшчыны" ўсё-такі недапрацавала ў кірунку надання гэтай падзеі неабходнага розгаласу, ну хоць бы параўнальнага з тым самым "Славянскім базарам" у Віцебску…

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ.**

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ



*Заместитель министра здравоохранения – директор Департамента фармацевтической промышленности, кандидат медицинских наук **Валерий Шевчук** объяснил, почему в Беларуси некоторые лекарства стоят дороже, чем в соседних странах.*

*Журналист "Народной Воли" дозвонилась ему на "Прямую линию".*

# Валерий ШЕВЧУК: «Я верю в эффективность отечественных лекарств…»

**– Валерий Евгеньевич, я покупаю своей маме таблетки «Плавикс» – их после операций назначают почти всем сердечникам. У нас эти таблетки стоят дорого: 28 штук – около 24 рублей, а пить их нужно год, а иногда и больше. Я привожу «Плавикс» из Вильнюса – там 84 таблетки стоят всего 14 евро. Это в переводе на наши деньги примерно 30 рублей. Но в упаковке, еще раз подчеркну, в три раза больше таблеток. Вот почему многие белорусы, которым назначают этот препарат, везут его из Украины, Польши, Литвы. И такая же картина с некоторыми другими лекарствами…**

– Давайте сразу будем корректными – такая картина не со многими, а с отдельными лекарствами. И я объясню почему. В Польше, в Литве, в других странах Евросоюза – это дотационные за счет бюджета лекарства. Государство компенсирует цену на эти лекарства за счет страховых компаний, за счет других способов.

У нас «Плавикс» раньше был еще дороже, но мы проводили многочисленные переговоры с производителем, и он снизил цены для Беларуси. Мы и дальше будем вести переговоры, думаю, цена препарата еще немного снизится.

Но я должен сказать, что есть не менее эффективные белорусские препараты – они стоят в разы дешевле.

**– А почему у нас тот же «Плавикс» и другие жизненно необходимые лекарства нельзя сделать дотационными?**

– У нас совершенно другая система здравоохранения, бесплатная. И многие препараты бесплатные: те же инсулины, например. А в Литве и в Польше – страховая медицина, там другие подходы.

**– Как вам кажется, почему у белорусов существует большое недоверие к лекарствам отечественного производства? Ведь сегодня в аптеке, покупая препараты даже первой необходимости, многие выбирают именно импортные.**

– Но при этом у нас треть экспорта идет в Россию, в страны СНГ, и там белорусские лекарства пользуются безусловной популярностью, считаются суперкачественными. Можете объяснить мне этот феномен?

**– Не могу. Но признаюсь в лекарственной непатриотичности: как правило, делаю выбор в пользу импортных препаратов.**

– Вы, наверное, помните, что относительно недавно на нашем рынке в основном были импортные препараты. И когда белорусская фармацевтическая промышленность начала выпускать свои препараты, появилась какая-то конкуренция. Но период, когда здесь было засилье импорта, сформировал стереотип, что импортные лучше. Сейчас ситуация меняется.

**– А в целом есть какая-то хоть призрачная перспектива, что лекарства в Беларуси станут дешевле? Или фармацевтические шоп-туры в соседние государства еще долго будут востребованными?**

– Фармпроизводители в первую очередь оценивают емкость рынка. В той же Польше емкость рынка в четыре раза больше, чем у нас. Значит, покупательская способность разная. Чем выше объем производства, тем ниже себестоимость.

**– А в Литве жителей еще меньше, чем у нас. Но на стоимость некоторых лекарств это почему-то не влияет…**

– Там просто другая система здравоохранения…

**– Интересно, а вы когда, например, своих детей лечите или сами болеете, какие препараты покупаете?**

– Нолоприлы – белорусские. Противовирусные – тоже белорусские. Я верю в эффективность отечественных лекарств.

**Марина КОКТЫШ.**

ФЭСТ

# У Польшчы загараюцца беларускія зоркі



*У польскім Гарадку ў мінулыя выхадныя прайшоў чарговы фестываль маладой беларускай музыкі "Басовішча-2017".*

Пераможцам конкурсу стаў мінскі гурт **Teleport**. Журы палічыла яго лепшым сярод чатырох каманд, якія выступілі ў фінале.



Як распавяла былая арганізатарка "Басовішча" **Ганна Пякарская**, фестываль мяняецца разам з гледачамі. *"Гэта больш эксперыментальная музыка, – сказала яна. – Гэта сапраўды музыка маладой Беларусі".*



**Віктар ШПАК.**

БЫВАЕ…

# Вярнулі грошы

*У банк у Гомелі звярнуліся грамадзяне, якія атрымалі лішнія грошы з-за памылкі касіра.*

Напярэдадні ў адным з банкаў мужчына мяняў 95 тысяч расійскіх рублёў, і касір выдаў яму лішнія 800 беларускіх. У гэты ж дзень жанчына купляла 300 долараў, і касір памылкова выдаў ёй лішнія 200 рублёў.

Пасля таго як гэтая інфармацыя трапіла ў СМІ, і мужчына, і жанчына грошы вярнулі.

ШЧЫРАЯ РАЗМОВА

# Вячка ЦЕЛЕШ: «Не хадзіце пад чужыя сцягі і любіце адзін аднаго!»




**Вячка Целеш** удзельнічаў ва ўсіх з'ездах беларусаў свету. Чым яму запомніўся сёмы, які пазаўчора закончыў сваю працу ў Мінску? Пра гэта распавядае мастак з Рыгі.

**– Спадар Вячка, вы адзін з нямногіх дэлегатаў, хто ўдзельнічаў у першым з'ездзе ў 1993 годзе і пазней не прапусціў ніводнага. Калі параўнаць гэтыя прадстаўнічыя форумы, чым сёмы з'езд вылучаецца на іх фоне?**

– Калі ўжо паглыбляцца ў гісторыю, то я нават стаяў ля вытокаў Згуртавання беларусаў свету. У 1992 годзе, калі дзяржаўнымі сімваламі Беларусі былі бел-чырвона-белы сцяг і "Пагоня", мы сабраліся на з'езд беларусаў блізкага замежжа і заснавалі «Бацькаўшчыну». А праз год у Оперным тэатры адбыўся першы з'езд – найбольш прадстаўнічы за ўвесь час – 1300 толькі дэлегатаў. Тады ж у мінскім Палацы мастацтва адбылася і мастацкая выстава пад назвай «Жыве Беларусь!». А яшчэ праз год памянялася ўлада, памяняліся законы, змяніліся палітычныя накірункі, пачаліся розныя перашкоды. Дайшло да таго, што адзін са з'ездаў ледзь не адбыўся ў суседняй дзяржаве, я сам тады прапаноўваў сабрацца ў Польшчы ці Літве. Такія ўмовы ў Беларусі на той час былі. Дзякуй Богу, цяпер палітычны клімат у Беларусі палепшыўся, і мы бачылі на з'ездзе высокіх чыноўнікаў беларускай дзяржавы. Мне спадабаліся словы міністра замежных спраў, што нам усім трэба думаць, як захаваць беларушчыну ў свеце. Гэта пазітыўны крок з боку ўлады.

**– Мы ў Беларусі прывыклі ўжо да падобных выказванняў "уладатрымаўцаў", якія на словах «за незалежнасць», за «сільную і працвітаючую Беларусь», а насамрэч працягваюць душыць і беларускую школу, і беларускае кнігавыданне і г. д. А вы ім верыце?**

– Асаблівага даверу няма, але ж надзея ёсць. Раней мы падобных думак ад улады нават не чулі. А нядаўна Макей прызнаў, што беларускую гісторыю спрабуюць адабраць суседнія дзяржавы. Гэта таксама пазітыў. А пагляздіце, шмат хто на з'ездзе быў у беларускіх кашульках – на белым фоне чырвоны арнамент. Ды і чыноўнікі выступалі на гэтым фоне. А гэта ўжо прызнанне нашых гістарычных колераў. Усё адбылося добра.

**– На адкрыцці з'езда не мог трапіць архіепіскап БАПЦ, якога не пропускалі праз мяжу. І. магчыма, толькі дзякуючы пазіцыі з'езда ўлады дазвол усё ж далі. З аднаго боку – Макей з бел-чырвона-белым банцікам на грудзях, з другога – па-ранейшаму «не пускаць». Чаму так адбываецца?**

– Думаю, справа ў пазіцыі РПЦ, якая лічыць Беларусь сваёй «кананічнай тэрыторыяй». Яна і цяпер стараецца ўплываць на падзеі ў Беларусі. Столькі гадоў беларуская ўлады палітычна арыентаваліся на Расію, на братэрства і аб'яднанне, што ім цяжка адразу адхіліцца ад той арыентацыі. Я думаю, што гэта будзе адбывацца паступова. Што да скандалу са Святаславам з Таронта, то тут таксама інерцыя. Памятаеце, на папярэднія з'езды не пусцілі Алену Глагоўскую з Польшчы, Хведара Нюнько з Літвы. Цяпер жа пэўныя зрухі ёсць і спадзеў ёсць, што сапраўды нешта памяняецца, і па-беларуску чыноўнікі гавораць... Дарэчы, у Рызе на 3 Ліпеня беларуская амбасада рабіла прыём, на якім прысутнічала шмат латышскіх палітыкаў і замежных амбасадараў. Дык амбасадар упершыню выступіў на беларускай мове. Побач на экране ішоў пераклад на латышскую і англійскую мовы.

**– Раней з дапамогай тых жа амбасадаў беларускія суполкі ў многіх краінах раскалваліся на «свае» і «чужыя». І Латвія не стала выняткам. Дык но прыйшла пара зноў з'яднацца?**

– У Латвіі ёсць беларускае таварыства «Світанак», аб'яднанне мастакоў «Маю гонар» і беларускі цэнтр «Узддым» у Даўгаўпілсе. Усе мы прыехалі на з'езд. Мы супрацоўнічаем, разам адзначаем святы, у тым ліку і 25 Сакавіка. А яшчэ ёсць Саюз беларусаў Латвіі, які аб'ядноўвае каля дзесяці беларускіх суполак. Іх прадстаўнікі ў Мінск не прыехалі, у кіраўніцтва тых суполак і таго саюза свае мэты. Хтосьці зарабляе на біласе і не хоча, каб людзі ішлі ў тое таварыства. Так што размежаванне ёсць, як і ў самой Беларусі. Не ўсе яшчэ разумеюць, што таварыствы патрэбны, каб захоўваць нацыянальную ідэнтычнасць нашай дыяспары.

**– Вы ўжо сказалі, што бывалі ў амбасадзе на прыёме. А ці дапамагае яна вам ладзіць нейкія беларускія імпрэзы?**

– Калі мы запрашаем, з амбасады нехта заўсёды прыходзіць, але матэрыяльнай дапамогі няма ніякай. Як толькі да нас прыехала новая амбасадарка Марына Іванаўна Даўгаполава, то нейк падышла да мяне і кажа: «Прабачце, я буду гаварыць па-расійску альбо на трасянцы». Я кажу: размаўляйце з намі на любой мове, але – пра беларускія справы, пра наша мастацтва, пра нашу культуру. І Марыя Іванаўна вывучыла мову, цяпер перад намі выступае толькі па-беларуску. Я гэтаму рады. Мы сустракаемся на розных імпрэзах. Напрыклад, нядаўна ў нас была выстава Бакста з беларускіх сховішчаў. На адкрыцці прыязджаў міністр замежных спраў, і таксама гучала беларуская мова.

**– Ведаю, што вы цяпер пішаце кнігу пра беларускіх мастакоў, што жылі ў Латвіі. Як рухаецца справа? Чые імёны вам удалося адкрыць?**

– Я ўжо напісаў раздзел пра Пётру Міраноvіча, які нарадзіўся ў Латгаліі, скончыў беларускую гімназію, потым латвійскую Акадэмію мастацтваў, пасля вайны апынуўся ў ЗША, дзе і памёр. Я знайшоў ягонага сына, шмат цікавага ад яго даведаўся. Потым я напісаў пра Гадыцкага-Цвірку з Маладзечна, ён таксама скончыў у Рызе Акадэмію мастацтваў, памёр у Даніі. Аркадзь Салаўёў родам з Латгаліі, вучыўся ў Даўгаўпілскай рэальнай вучэльні, пазней – у Празе, куды трапіў па накіраванні таварыства «Бацькаўшчына» ў 1921 годзе. Яшчэ адзін герой маёй кнігі – Міхась Калінін, выхаванец дзяржаўнай Беларускай гімназіі ў Даўгаўпілсе і Лудзы. Вучыўся ў Акадэміі мастацтваў, скончыў, праўда, толькі два курсы, потым быў настаўнікам у беларускіх школах. Ваяваў, прайшоў усю вайну, памёр у Рызе. Цяпер шукаю звесткі пра Аляксандру Бельцаву, якая нарадзілася ў Суражы (раней Украіна, цяпер – Бранская вобласць Расіі). У яе бацька быў беларусам, а маці ўкраінкай. У Латвіі яе лічаць класікам жывапісу.

**– Гэта ж тая Бельцава, што аздабляла беларускія кнігі, якія выходзілі пад апекай Кастуся Езавітава?**

– Так, у час вайны яна з дачкой засталася ў Рызе, малявала – трэба ж было зарабляць на хлеб. І Езавітаў ёй замаўляў аздабленне беларускіх казак. Потым паэт Алесь Салавей, які працаваў у часопісе «Новы шлях» у Рызе, таксама папрасіў яе праілюстраваць ягоную кнігу. Я знайшоў малюнкі Бельцавай, па іх можна меркаваць, што яна добра ведала беларускі арнамент. Думаю, што тэтае імя стане адкрыццём для беларусаў.

**Міхась СКОБЛА.**

(Радыё Свабода.)

СІТУАЦЫЯ

# ДАІ не рэкамендуе чапляць «георгіеўскія стужкі»

У Светлагорску пасля амаль месячнага перапынку зноў пачалі рэзаць колы аўтамабіляў, на якіх прымацаваны так званыя "георгіеўскія стужкі". Чарговы інцыдэнт адбыўся ў ноч з 15 на 16 ліпеня ў мікрараёне «Маладзёжны».

«Пашкоджанымі аўтамабілямі займаюцца супрацоўнікі крымінальнага вышуку, – сказаў начальнік Светлагорскага аддзялення ДАІ **Васіль Гапоненка**. – "Георгіеўскія стужкі" раздавалі валанцёры падчас мінулых святаў, некаторыя аўтааматары і начапілі іх на свае аўтамабілі. Мы можам толькі рэкамендаваць кіроўцам гэтага не рабіць. І рэкамендуем».

Мясцовыя жыхары ў Светлагорску лічаць, што ў горадзе з'явіўся наступнік героя савецкай камедыі «Сцеражыся аўтамабіля» са сваёй адметнай спецыялізацыяй. Той Дзетачкін краў аўтамашыны ў людзей, якія жылі на «нетрацоўныя даходы», прадаваў, а выручаныя грошы пералічваў на рахункі дзіцячых дамоў.

Цяпрашні «светлагорскі Дзетачкін», на думку грамадскага актывіста, гісторыка **Тэльмана Маслюкова**, «ваюе» не з аўтамашынамі, а з «рускім миром», з сепаратыстамі ды імперскасцю, сімвалам якіх стала расійская георгіеўская стужка падчас вайны на ўсходзе Украіны і акупацыі Крыма.

(Радыё Свабода.)

РАЗВІТАННЕ

# У Зэльве пахавалі Юлію Качук…

Учора ў Зэльве пахавалі Юлію Качук – адзіную дачку краязнаўцы Юрыя Качука, аўтара папулярнай кулінарнай кнігі «Моц смаку».

30-гадовая мастачка загінула ў цэнтры Прагі ў ноч на 13 чэрвеня недалёка ад Нацыянальнага тэатра. Паводле матэрыялаў следства, яна трапіла пад трамвай.

Месяц спатрэбіўся, каб узгадніць працэдуру вяртання цела на радзіму. У Чэхіі **Юлія Качук** атрымала эканамічную адукацыю, працавала ў транспартнай кампаніі.

«Юля ўсё рабіла для людзей, жыла для людзей, – згадвае пасля трагедыі яе бацька **Юрый Качук**. – Была найлепшая вучаніца ў школе. Калі яе прымушалі ўзняць лукашэнкаўскі сцяг, казала, што ніколі гэтага не будзе, бо наш сцяг – святы бел-чырвона-белы. Таму і з'ехала... Больш у мяне і жонкі нікога няма. Гэта такая бяда!..»






Народная Воля http://www.nv-online.info
18 ЛІПЕНЯ 2017 г.

РЭДКІЯ ЛЮДЗІ

# «Родны кут» Юліі Бука

*Юлія БУКА – гаспадыня аграсядзібы ў Глыбоцкім раёне.*
*Адпачыць у вёску Валодзькава прыязджаюць госці з Мінска, Масквы, Еўропы, Амерыкі…*

## Зямля продкаў

– *Вольнага часу практычна няма,* – кажа Юлія Бука, спяшаючыся з абедам для пастаяльцаў. – *Спаць кладзёмся позна, а паднімаемся рана. На ліпень і пачатак жніўня свабодных месцаў ужо няма. Госці могуць самі рыхтаваць ежу (для гэтага ўсё прадугледжана) або заказваць у нас.*

«Родны кут» знаходзіцца недалёка ад раённага цэнтра. Вёска Валодзькава – малая радзіма Юліі Бука: тут жылі і працавалі яе дзяды яшчэ пры панскай Польшчы. Мясцовая жыхарка прызнаецца, што імкнецца захаваць зямлю продкаў.

– *І па матчынай, і бацькоўскай лініі яны былі заможныя, але калі прыйшлі камуністы, то забралі зямлю, вуллі, тэхніку,* – распавядае Юлія Людвігаўна.

Юлія Бука паводле адукацыі ветэрынарны ўрач. Спачатку скончыла тэхнікум, а потым атрымала вышэйшую адукацыю ў Віцебску. Але лёс маладой дзяўчыны складваўся няпроста: застаўшыся без бацькоў у 15 гадоў, разлічваць магла толькі на сябе.

– *Былі брат, сястра, але ў іх сваё жыццё, таму даводзілася выкручвацца самастойна. Да работы я была прывучана з дзяцінства, працавала і падчас студэнцтва. Пасля вучобы магла застацца ў горадзе, але мяне цягнула ў родныя мясціны.*

Тут Юля пазнаёмілася з будучым мужам. Але сумеснае жыццё не склалася: мужчына злоўжываў спіртным і не хацеў працаваць. Выхаванне траіх дзяцей цалкам лягло на плечы жанчыны.

У гэтым годзе малодшая дачка паступае ва ўніверсітэт, а сыны жывуць і працуюць у Польшчы.

– *Я вельмі доўга змагалася з п'янствам мужа,* – распавядае Юлія. – *Кадзіровак было столькі, што збілася з ліку, але ўсё марна. Людзі пыталіся, як я буду адна дзяцей падымаць. Працаваць прыходзілася без адпачынку. Памятаю: капаю бульбу, а калыска ў баразне стаіць.*

*Дзеці – гэта вялікае шчасце! Калі б у мяне быў нармальны мужык, то я і пяцярых нарадзіла б.*

Нягледзячы на ўсе цяжкасці, Юлія Людвігаўна змагла выгадаваць прыстойных дзяцей. Асабліва жанчына ганарыцца тым, што яны ведаюць сваю гісторыю, паважаюць родную мову і размаўляюць на ёй. Нядаўна Данат Бука стаў чэмпіёнам Польшчы па муай-тай. Разам з братам Аляксеем яны арганізоўвалі выступленне гурта «Брута» за мяжой. Сумненняў, што дачка Алеся стане студэнткай, няма, бо на тэсціраванні дзяўчына паказала высокія вынікі.

– *Сёння хтосьці можа сказаць, што я няўдачніца або ў жыцці*




*нешта зрабіла не так,* – кажа жыхарка Валодзькава. – *Але ў мяне залатыя дзеці, і жыццё ўжо пражыта недарма. Я рада, што ў іх ёсць прынцыпы і сябры. Мы сёння з хутара Валодзькава можам звязацца з Сяргеем Міхалком ці Віталем Гурковым, з якім трэніруецца сын.*

Падчас падзей на Майдане Алеся прыйшла на ўрокі з уплеценымі ў валасы жоўта-блакітнымі стужкамі, чым выклікала незадаволенасць у кіраўніцтва глыбоцкай гімназіі. Таксама, каб дачка магла вучыцца па-беларуску, Юліі Людвігаўне неаднаразова даводзілася абіваць парогі мясцовых навучальных устаноў.

– *Дзеці ўмеюць працаваць на сяле, навучыла ўсяму, што магу сама,* – распавядае Юлія Бука. – *Калі прыязджаюць сыны, то абавязкова дапамагаюць. На сувязі знаходзімся кожны дзень – такое ў нас правіла.*

## «Бел-чырвона-белым» зніжкі

Сёння ў Валодзькаве 26 дамоў і 15 жыхароў, з якіх большасць дачнікі. Закінутыя і безгаспадарныя хаты Юлія выкупляе, робіць рамонт і здае ў арэнду кліентам.

– *Зараз у мяне задзейнічаны тры дамы,* – тлумачыць наша суразмоўца. – *Яшчэ некалькі знаходзяцца ў рамонце. Калі я толькі пачынала, то нават сваякі не верылі, што ў мяне атрымаецца працаваць: маўляў, хто паедзе адпачываць у вясковы дом? Але аказалася, што на турызм ёсць попыт. У бліжэйшыя дні мы чакаем групу гасцей з Амерыкі.*

«Родны кут» прызнаны лепшай аграсядзібай у краіне. Праўда, поспехам Юліі рады далёка не ўсе. Напрыклад, некаторым мясцовым жыхарам не падабаецца беларускасць гаспадыні, а таксама яе апазіцыйныя погляды: з пачатку 1990-х гадоў жанчына была сябрам Партыі БНФ і дэпутатам сельсавета. Крытычнае стаўленне да ўлад захавалася і сёння.

– *Адносіны са сваякамі, мякка кажучы, ніякія,* – кажа Юлія Людвігаўна. – *Ім не падабаюцца мае погляды, не падабаецца, як я выхоўваю дзяцей. Нават тое, што ў мяне з'явіўся мужчына, таксама ў штыкі ўспрынялі. А як з такой гаспадаркай адной?! Шмат брудных чутак і зайздрасці з боку людзей…*

І ўсё ж Юлія Бука не апускае рукі. Летам ад жадаючых адпачыць няма адбою. Арандаваць домік і адчуць вясковы лад жыцця можна па папярэднім запісе. Пры жаданні госці могуць падаіць кароў, узяць у рукі касу, зварыць бульбу ў чыгунку і гэтак далей. Але ёсць у гаспадыні сядзібы і "чорны спіс", у які патрапілі асобныя кліенты.

– *Людзі прыязджаюць розныя і далёка не заўсёды прыстойныя,* – кажа Юлія аб кліентах. – *Ёсць некалькі чалавек, з якімі я працаваць не буду. Прыехаў мужчына з выявай Пуціна на майцы, стаў абражаць нашы погляды, беларускую мову... Пасварыліся мы моцна… і я яго не пусціла.*

*Навошта мне госць, які будзе сябе так нахабна паводзіць?! Трэба разумець, што я не адмоўлю чалавеку, калі ён размаўляе па-руску, але абражаць нашы сімвалы, нашы традыцыі не дазволю.*

**– А за бел-чырвона-белую стужку на машыне зніжку зробіце?**

– Абавязкова. У нас 20 працэнтаў зніжка для беларускамоўных, тых, хто змагаецца за нашу культуру, сімвалы... Вядома, прыязджаюць і добрыя людзі: памятаю масквіча, які пісаў мне эсэмэску па-беларуску.

## Разлік толькі на сябе

Акрамя турыстычнага бізнесу Юлія Бука трымае гаспадарку: дзве каровы, куры, свінні, агарод. Працуе ўся сям'я, каб не марнаваць грошы на аплату наёмнай працы. Усе сродкі ўкладваюцца ў развіццё аграсядзібы.

– *Турызм нам дапамагае жыць, бо ў вёсцы няма іншай працы,* – тлумачыць Юлія Людвігаўна. – *Людзі едуць круглы год. І гэтым выгадна займацца, калі некалькі дамоў. Зараз вельмі вялікая канкурэнцыя сярод уладальнікаў аграсядзіб, але з высокімі коштамі. Калі браць вялікія грошы, то да мяне ніхто не паедзе. Таму разлік на колькасць людзей, а не на вялікія кошты. У нас тут мінімум цывілізацыі і максімум свабоды, але з выгодамі.*

Паводле слоў Юліі Бука, гэта не зусім бізнес, а хутчэй магчымасць падпрацоўваць на вёсцы. Праблем з кліентамі няма, бо сума пражывання цалкам прымальная. Многія сем'і прыязджаюць адпачываць у вёску пад Глыбокім ужо некалькі гадоў запар.

Дзяржаўная прапаганда сёння заклікае адраджаць вёску, але ў той жа час мясцовыя жыхары не маюць сур'ёзнай падтрымкі.

– *Нам кажуць, што вёску падтрымліваюць,* – выказвае сваю думку Юлія Бука. – *Але для таго, каб мець мікрахвалёўку і гарачую ваду, трэба плаціць немалыя грошы за электрычнасць. Ніякіх скідак няма.*

Як тлумачыць жыхарка Глыбоцкага раёна, закупачныя цэны на сельскагаспадарчую прадукцыю вельмі нізкія. Напрыклад, за літр малака, якое ідзе на мясцовы завод, можна атрымаць 40 капеек.

– *А ў краме пакет малака каштуе больш за рубель,* – кажа ўладальніца «Роднага кута». – *Але такая сітуацыя не толькі з малаком. Два гады таму мы накапалі шмат бульбы, якую планавалі здаць. У Глыбокім тады цана была 2 тысячы (старымі) за кілаграм. Гэта добрая цана, але ў мяне бульбу не бралі. Пастаянна знаходзіліся нейкія прычыны: маўляў, пачакай і гэтак далей. Скончылася ўсё тым, што цана на бульбу абвалілася. Як аказалася, пакуль бульбу не здадуць сваякі і сябры начальнікаў, у простых людзей за нармальную цану нічога браць не будуць.*

Нядаўна Юлія Бука хацела ўзяць крэдыт на развіццё сядзібы. Эканамічна гэта была выгадная здзелка, але жанчыне давялося адмовіцца ад супрацоўніцтва з банкам.

– *Крэдыт даваўся пад 5 працэнтаў на 7 гадоў,* – успамінае гаспадыня турыстычнага праекта. – *Умовы добрыя, але ўзніклі нюансы. Па-першае, на прадастаўленыя грошы можна купляць толькі прадукцыю беларускай вытворчасці. Па-другое, кожны месяц даваць справаздачу, куды выдаткаваны сродкі, і гэтак далей. Я не магу сабе дазволіць так часта бегаць у банк і тлумачыць, куды я выдаткавала грошы. Яшчэ трэба было на 7 гадоў распісаць, якім будзе даход! Адкуль я магу гэта ведаць, калі ў мяне, напрыклад, заўтра не будзе гасцей?*

Сёння Юлія Бука развівае аграсядзібу, займаецца гаспадаркай і разлічвае толькі на сябе і сваю сям'ю. Увосень Алеся з'едзе вучыцца ў горад, а ўся праца застанецца на Юліі і яе мужчыне.

– *Я ж сама ўсё гэта абрала,* – кажа Бука. – *Таму, сцяўшы зубы, робім сваю справу, нават калі моцна стамляемся. Дапамогі не просім, працуем самі. Абы не чапалі...*

**Раман ВАСЮКОВІЧ.**
**Фота аўтара.**

*Глыбоцкі раён.*

ЧУЛІ?

## Пасольства Украіны накіравала ў МЗС Беларусі ноту ў сувязі з паказам у мінскіх кінатэатрах трэйлера расійскага фільма «Крым»

Пасольства Украіны накіравала ў МЗС Беларусі ноту ў сувязі з паказам ў мінскіх кінатэатрах трэйлера расійскага мастацкага фільма "Крым" рэжысёра Аляксея Піманава.

Як паведамілі БелаПАН у Пасольстве Украіны, нота была накіравана 14 чэрвеня. Ад каментарыяў у дыппрадстаўніцтве адмовіліся.

Прэм'ера фільма "Крым" плануецца ў Беларусі ўвосень, дакладная дата пакуль невядомая. У трэйлеры карціны гаворыцца, што драма заснавана "на рэальных падзеях". У анатацыі да фільма на сайце kinopoisk.ru паведамляецца, што гэта "гісторыя пра каханне, веру і гонар, пра сілу духу і сапраўднае сяброўства на фоне рэальных падзей крымскай вясны 2014 года".

**БелаПАН.**

СТОП-КРАН

## Перадумалі…

Следчы камітэт адмяніў уласную пастанову, якая прызнавала за маладафронтаўцам Зміцерам Крамянецкім права на пакрыццё шкоды за незаконныя дзеянні органа, які вядзе крымінальны працэс.

Нагадаем, што Крамянецкага, як і некаторых іншых "маладафронтаўцаў", затрымалі 23 сакавіка. Іх усіх у рамках вядомай «справы патрыётаў» абвінавацілі ў падрыхтоўцы масавых беспарадкаў. 2 чэрвеня справу супраць Крамянецкага спынілі за адсутнасцю складу злачынства. Пасля гэтага малады чалавек звярнуўся ў Следчы камітэт з заявай на кампенсацыю шкоды, бо лічыць утрыманне пад вартай незаконным. Памер маральнай шкоды Крамянецкі ацаніў у дзесяць тысяч рублёў.

Спачатку Следчы камітэт прызнаў права актывіста на кампенсацыю шкоды, але новы ліст сведчыць, што следчыя паспяшаліся…

## Назад, у Расію!

*У пункце пропуску «Казловічы» на беларуска-польскай мяжы ў грузавіку беларускія памежнікі знайшлі двух расіян.*

Мужчыны таемна забраліся ў прычэп грузавога аўтамабіля і спадзяваліся незаконна трапіць у Польшчу. Як паведамляе прэс-служба Памежнага камітэта, жыхары Арэнбурга і Грознага разлічвалі палепшыць свае жыццёвыя ўмовы.

Памежнікі склалі адміністрацыйныя пратаколы на абодвух парушальнікаў дзяржаўнай мяжы. Мужчынам вынеслі папярэджанні і дэпартавалі іх з тэрыторыі Беларусі на пяць гадоў.

ШТО ХВАЛЮЕ...

## Валерый Кавалькоў не падтрымлівае песімістаў

Літаральна некалькі месяцаў таму ў навуковым часопісе Baltic Journal of Economics быў апублікаваны артыкул "*Наступствы старэння насельніцтва для пенсіённай сістэмы Рэспублікі Беларусь*". Аўтары даследавання, эканамісты з добрай замежнай адукацыяй **Кацярына Лісянкова і Кацярына Барнукова,** лічаць, што цяперашняя пенсіённая рэформа вырашае праблему дэфіцыту пенсіённага фонду толькі да 2022 года. Пасля спатрэбіцца новая рэформа.

Намеснік міністра працы і сацыяльнай абароны **Валерый Кавалькоў** не падзяляе песімізму даследчыкаў. Але сам ад разгорнутых прагнозаў устрымліваецца. Вось як ён пракаментаваў "Народнай Волі" магчымае павышэнне пенсіённага ўзросту яшчэ на некалькі гадоў.

– *Цяперашняя пенсіённая рэформа завершыцца толькі праз шэсць гадоў,* – адказаў чыноўнік, які днямі дзяжурыў у міністэрстве на "Прамой лініі". – *І прагназаваць, што будзе далей, пакуль даволі складана. Але ў першую чаргу, вядома, усё будзе залежаць ад колькасці занятых у эканоміцы, ад плацельшчыкаў узносаў у пенсіённы фонд, а дакладней – ад суадносін колькасці плацельшчыкаў і атрымальнікаў пенсіі. Як зменіцца колькасць плацельшчыкаў узносаў праз шэсць гадоў, я не магу прадказаць. Але, паводле нашых разлікаў і дэмаграфічных прагнозаў, праблем быць не павінна.*

**Марына ВІШНЕЎСКАЯ.**

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

Людмила ШЕРЕМЕТ:

# «Кто так ненавидел Павла и так его боялся, что лишил жизни?»

*Недавно мать Павла Шеремета и его дочь Елизавета вместе с представителями Комитета защиты журналистов встретились с президентом Украины Петром Порошенко, который год назад заявил, что берет дело под свой личный контроль.*
*"Народная Воля" задала несколько вопросов* ***Людмиле Шеремет.***

**– Людмила Станиславовна, в прессе проходила информация, что Порошенко может присвоить Павлу звание Героя Украины...**

– В прошлый раз, когда мы встречались с Петром Порошенко, он действительно спросил, не против ли я, если Павлу присвоят звание "Героя Украины". Я ответила, что могу только поклониться украинскому народу...

В этот раз ни о звании, ни о присвоении скверу, который находится недалеко от места гибели, имени Павла речь не шла. Возможно, потому, что была очень представительная делегация и было мало времени, нужно было обсудить немало вопросов. Да и разговор шел не об этом, а о том, как ведется расследование дела, насколько оно продвинулось в своих результатах.

**– Было во время этой встречи что-то, что вас, может быть, порадовало, вселило какую-то надежду, что расследование дела близится к финишу?**

– А что меня может порадовать, если сына уже нет?..

Это прежде всего тем, кто расследует дело о гибели Павла, кто стоит у руля украинской власти, нужно чтить память Павла, чтобы показать, что у них действительно демократическая страна, в которой каждый защищен и в которой правосудие работает безупречно.

**– Вы хотите, чтобы те, кто убил Павла, понесли самое жестокое наказание?**

– Нет, мне от этого точно легче не станет. Мне не нужны их смерти. Я просто хочу понять, узнать: кто так ненавидел Павла и так его боялся, что лишил жизни?

**– Людмила Станиславовна, у вас была возможность напрямую обратиться к Петру Порошенко, без посредников задать какие-то вопросы. Если не секрет, что вы ему сказали?**

– Во время нашей первой встречи я прежде всего поблагодарила его и украинский народ за то, что так достойно проводили моего сына, нам предоставили самолет – я понимаю, что все это было сделано не без его участия.

А в этот раз я сказала ему о том, что у меня пропала надежда на объективное и независимое расследование.

Петр Порошенко – гарант Конституции Украины, и он не раз заявлял о том, что дело Павла – лакмусовая бумажка для всего украинского правосудия. Каждый месяц силовики ему отчитываются о том, что сделано, он жестко требует объективного расследования и говорит, что пристально следит за тем, что делается.

А я на днях прочла заявление министра внутренних дел Украины Арсена Авакова о том, что около 7 процентов уголовных дел в Украине просто не раскрываются, и дело Павла попало в их число.

Петр Порошенко мне на это ничего не ответил...

**Марина КОКТЫШ.**

## Правила жизни Павла Шеремета

«Я правнук партизана, внук партизана и сам партизан!»

***

22 июля – день нашего ареста с Дмитрием Завадским – не считаю памятной датой. Я даже толком не помню дату своего освобождения из Гродненской тюрьмы и дату вынесения приговора. Это для меня не памятные дни. Памятная дата – день похищения Димы Завадского, день его рождения. Все остальные дни – это просто отметки на календаре».

***

«Сегодня впервые в жизни вышел на пикет. 40 дней назад в Москве убили моего товарища Бориса Немцова. Я решил выйти к российскому посольству с пикетом. Купил в магазине канцтоваров лист ватмана, два маркера, в соседнем кафе написал «Смерть Немцова – позор России» и поехал. Но раньше я никогда не выходил с пикетами и сейчас переживал, уместно ли это, не выглядит затея как-то глупо – стоит человек один с плакатом, чего-то требует. Я не успел ровно к 11 утра, приехал на пять минут позже, и увидел мужика, который к ограде посольства крепил небольшой букет цветов. Мне стало легче, потому что вдвоем всегда легче».

***

«Мне как отцу двух студентов, честно признаюсь, не хочется, чтобы мои дети влезали в какие-то политические конфликты. Я сам постоянно во что-то влезаю, поэтому прекрасно знаю цену и последствия борьбы за справедливость. И отцовское во мне сильнее общественного. В этом надо честно




признаться, а не маскировать свою слабость под подлыми благоразумностями».

***

«В Украине, если вы хотите достичь настоящего успеха, то должны понимать, говорить и писать на двух языках. Все чиновники там обязаны общаться на украинском. Когда-нибудь и в Беларуси свободное владение двумя языками (не знание и умение прочитать пару страничек, а именно владение и активное использование) станет нормой.

Я живу в Киеве уже пятый год. Я не собираюсь менять гражданство и не изображаю из себя украинца. Этого никто и не требует. Но я вижу, как много людей бережно относятся к своему родному украинскому языку, что начинаю и сам переходить на украинский. Я уже почти все понимаю, но еще не говорю.

Я по утрам веду программу на одной из украинских радиостанций и каждый день в эфире читаю по 10 минут на украинском языке. Я не боюсь делать ошибки и выглядеть смешным.

Не бойтесь и вы, умные люди вас поймут и поддержат, а дуракам и объяснять ничего не надо. Дураков вообще не должно быть рядом с нами.

Недавно я был в Минске, зашел в книжный магазин и купил учебник белорусского языка Галины Мыцык. Не знаю почему, но просто очень сильно захотелось его купить…»

100 ГАДОЎ ТАМУ...

# ПАЧАТАК эпохі асоб

Першыя спробы рэальнай самаарганізацыі беларусаў на нацыянальным падмурку высветлілі цэлы пласт таленавітых людзей, без якіх цяжка сабе ўявіць сітуацыю фарміравання ўласнай дзяржаўнасці. У папярэднім маім матэрыяле гэтай рубрыкі гаворка ішла пра першы з'езд беларускіх нацыянальных арганізацый, што прайшоў у тагачасным Менску ў канцы сакавіка (пачатку красавіка паводле новага стылю) 1917 года, у выніку якога быў утвораны Беларускі Нацыянальны Камітэт (БНК). Галоўным яго абавязкам было адстойванне беларускіх інтарэсаў перад Часовым урадам Расіі.

Узгадайма некаторых найбольш значных сяброў БНК. З увагі на немалы палітычны досвед, назапашаны да той пары, старшынёй Беларускага Нацыянальнага Камітэта абралі землеўласніка з Палесся **Рамана Скірмунта** (1868–1939). Ён быў дэпутатам Першай расійскай Дзярждумы, меў сярод агульнарасійскай палітычнай эліты добрыя сувязі. Нарадзіўся ў маёнтку Парэчча, што на Піншчыне, выхоўваўся ў духу любові да канструктыўнай і дбайнай працы. Атрымаў вышэйшую юрыдычную адукацыю ў Варшаўскай Галоўнай школе, філасофскую – у Венскім універсітэце. Быў абраны старшынёй Таварыства па распрацоўцы сельскагаспадарчых і эканамічных патрэб Палесся. Пазней ён стаў таксама сябрам Менскага грамадскага Таварыства сельскай гаспадаркі.



Вядомым у царскай Расіі палітыкам яго зрабілі бліскучыя прамовы ў вышэйзгаданай Дзярждуме, куды ён быў абраны ў 1906 годзе. Як адзначаюць гісторыкі, у прыватнасці Янка Запруднік і Дарота Міхалюк, Скірмунт не раз выказваўся ў Думе за дэмакратызацыю палітычнага жыцця, роўнасць грамадзян перад законам, павагу да нацыянальных асаблівасцяў беларусаў і адукацыю на роднай мове (у чым з яго, дарэчы, маглі б браць прыклад і цяперашнія палітыкі). Гэта стварыла яму апазіцыю з боку ўплывовай часткі па-прапольску арыентаваных землеўласнікаў з Беларусі, у выніку інтрыг якіх Скірмунт не трапіў у склад другой Дзярждумы.

У 1911 годзе Рамана Скірмунта выбралі ў Менскае губернскае земства. Падчас Першай сусветнай вайны ён узначаліў Менскі аддзел Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны. Погляды Рамана Скірмунта эвалюцыянавалі ад падтрымкі ідэі "краёвасці" да безумоўнага ўсведамлення патрэбы самастойнай беларускай дзяржаўнасці.

У 1918 годзе ён стане адным з самых выдатных дзеячаў Беларускай Народнай Рэспублікі, пэўны час будзе ўзначальваць яе ўрад… У міжваенны час напачатку Раман Скірмунт адыдзе ад актыўнай палітычнай дзейнасці: вярнуўшыся ў роднае Парэчча, пабудуе там фабрыку сукна, вадзяны млын, цукровы завод, лякарню, новы касцёл… У 1930 годзе яго абяруць сенатарам другой Польскай Рэспублікі, ён будзе, сярод іншага, выступаць у абарону нацыянальных меншасцяў. Загіне ў 1939 годзе ад рук сялян сваёй вёскі, нацкаваных савецкім камісарам Холадавым, неўзабаве пасля прыходу Чырвонай арміі ў Заходнюю Беларусь. Паводле сведчанняў мясцовых жыхароў, калі на яго наставяць рулю вінтоўкі і запатрабуюць адвярнуцца спінай, ён скажа: "Страляйце так – я ад людзей ніколі не адварочваўся". Зрэшты, гора-стралкі ў яго як след не пацэляць і будуць дабіваць 71-гадовага былога прэм'ера БНР камянямі…



Намеснікамі Рамана Скірмунта ў складзе першага Беларускага Нацыянальнага Камітэта былі абраны Усевалад Фальскі і Павел Аляксюк. **Усевалад Фальскі** нарадзіўся ў добра цяпер вядомай мінчанам Лошыцы ў 1886-м ці 1887 годзе. Вучыўся ў Пецярбургу ў Лясным інстытуце, яшчэ ў 1906 годзе далучыўся да беларускага руху. Меў схільнасць да тэатральна-акцёрскай дзейнасці і напачатку актыўна ўдзельнічаў у розных беларускіх аматарскіх пастаноўках. У 1915 годзе быў адным з арганізатараў Першага беларускага таварыства драмы і камедыі, старшынёй якога Фальскага ўрэшце і абралі. Увайшоў ён і ў склад вышэйзгаданага Менскага аддзела Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны. Прытрымліваўся левых поглядаў і, пачынаючы ад лета 1917 года, браў удзел у стварэнні Беларускай секцыі бальшавіцкай партыі. За гэта пасля вяртання ў Менск ён атрымае пасаду (наогул фіктыўную) камісара замежных спраў першага ўрада Савецкай Беларусі. У 1919 годзе адносіны Фальскага з бальшавіцкімі ўладарамі пагоршацца: яму будзе інкрымінавацца імкненне *"организовать независимую белорусскую компартию"*, што быццам бы *"подрывало советскую власть на Белоруссии"*. Фальскі неаднаразова будзе сядзець у турмах, у тым ліку ў Смаленскай катаржнай, атрымае і "расстрэльны" прысуд, які будзе пазней змякчаны. Пасля кароткага перыяду працы справаводам у Смаленскім універсітэце Усевалад Фальскі пераедзе ў Кіеў, стане дырэктарам драматычнага тэатра імя Занькавецкай, а далей яго сляды дзіўным чынам назаўсёды згубяцца, хоць вядома, што Фальскі перад гэтым неаднаразова звяртаўся да Урада БССР па дазвол вярнуцца на радзіму… Толькі ў 1996 годзе беларуская ваенная пракуратура прызнае вынесеныя яму бальшавіцкай уладай прысуды неправамоцнымі.

**Павел Аляксюк** нарадзіўся ў 1892 годзе ў Гродне. Пасля заканчэння Гродзенскай мужчынскай гімназіі і юрыдычнага факультэта Пецярбургскага ўніверсітэта пачаў актыўную дзейнасць у якасці аднаго з кіраўнікоў Гарадзенскага гуртка беларускай моладзі, стаў карэспандэнтам "Нашай Нівы". З пачаткам Першай сусветнай вайны далучыўся да працы Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны ў Вільні. У маі 1917 года браў удзел у стварэнні Беларускай народнай партыі сацыялістаў. Пазней Павел Аляксюк будзе ўдзельнічаць у дзейнасці выканаўчых камітэтаў Вялікай беларускай рады і Цэнтральнай вайсковай рады, ажыццяўленні спроб стварэння беларускага войска, стане адным з ініцыятараў абвяшчэння БНР. Будучы чалавекам прапольскай арыентацыі, схіліцца на бок польскіх вайсковых і дзяржаўных структур, уступіўшы ў канфлікт са шмат якімі іншымі беларускімі палітыкамі. Пазней будзе дзеячам так званай Сярэдняй Літвы, створанай пад пратэктаратам кіраўніка польскай дзяржавы, маршала Юзафа Пілсудскага, але не адмовіцца і ад дзейнасці ў падтрымку беларускай культуры і адукацыі. У сярэдзіне 1920-х гадоў Аляксюк будзе працаваць адвакатам у Наваградку, а далей яго сляды таксама незваротна згубяцца…

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ.**

ЗАКУЛИСЬЕ

# Инна АФАНАСЬЕВА: «Белорусам нужно учиться любить себя»

Несколько лет назад в белорусских СМИ писали о скандале, который на «Славянском базаре» устроила Инна Афанасьева. Певица была возмущена своей гримерной комнатой: в маленьком помещении без кондиционера и со специальным оборудованием для работы фониатра организаторы разместили сразу четырех выступающих. «Народная Воля» поинтересовалась у исполнительницы, изменилось ли отношение к белорусским артистам спустя четыре года.



– *Нет, ничего не изменилось. Меня мало кто слышит, но я всегда говорила, говорю и буду говорить о том, что белорусам нужно учиться любить себя. Тогда появятся и нормальные гримерки, и на открытии будут выступать не два, а три наших артиста. Много чего изменится. Но об этом сейчас не очень хочется говорить, потому что фестиваль – это всегда праздник. Люди приходят отдохнуть и хотят увидеть красивую картинку. А то, что происходит за кулисами, – уже совсем другая история.*

К слову, заслуженную артистку Беларуси Инну Афанасьеву организаторы пригласили лишь на ночную программу «Золотой хит» и концерт «Александру Тихановичу посвящается…», который проходил в КЗ «Витебск». В программах открытия и закрытия имени одной из самых ярких белорусских исполнительниц не было. Зато выступили Анастасия Тиханович, Ольга Рыжикова, Тео, Алена Ланская, NAVIBAND, Ядвига Поплавская, Петр Елфимов, «Песняры» и еще несколько наших артистов.

**Алина СТРАШКЕВИЧ.**

ПРАТЭСТ

# «Нас у Маскве расстрэльваюць...»

Беларускі саюз мастакоў уваходзіць у Міжнародную канфедэрацыю саюзаў мастакоў. Канфедэрацыя месціцца ў Маскве і валодае багатай уласнасцю: Домам творчасці «Сенеж», вытворчым камбінатам у Падольску, а самае галоўнае – Цэнтральным домам мастака на Крымскім Вале (знакамітым *ЦДХ*) і калекцыяй карцін на мільёны долараў. Незлічоныя багацці!

Усе яны, паводле рашэння Вярхоўнага суда РФ, павінны быць перададзены на карысць расійскай дзяржавы, бо на мінулым тыдні Вярхоўны суд РФ ліквідаваў па іску Мінюста арганізацыю «Міжнародная канфедэрацыя саюзаў мастакоў».

Старшыня «Беларускага саюз мастакоў» Рыгор Сітніца лічыць, што адбываецца натуральны захоп маёмасці, і разам з калегамі – старшынямі саюзаў мастакоў былых саюзных рэспублік – збіраецца падаваць апеляцыю ў наступную інстанцыю. Ён кажа:

– Мы гэтае рашэнне абскардзім, яшчэ ёсць Канстытуцыйны суд і міжнародныя суды. Мы гатовы, таму што рашэнне настолькі нахабнае, незаконнае!.. У канфедэрацыі былі нязначныя парушэнні, мы іх выправілі, паказалі дакументы, што выправілі, што ўплачаны штрафы. Калі чалавек перайшоў разы тры няправільна вуліцу, яго за гэта не расстрэльваюць. А нас у Маскве расстрэльваюць – ліквідуюць фізічна! Маё параўнанне адэкватна. Мы так ганарыліся, што Канфедэрацыя саюзаў мастакоў адзіная на ўсёй постсавецкай прасторы захавала еднасць усіх мастакоў былога Савецкага Саюза! Нават Літва, Латвія і Эстонія, якія не ўвайшлі у канфедэрацыю, на дамоўных пачатках удзельнічалі ва ўсіх праектах... Ні ў кога не атрымлівалася – ні ў пісьменнікаў, ні ў архітэктараў, а ў мастакоў атрымлівалася працаваць разам!

– Канфедэрацыя існавала 25 гадоў, існавала эфектыўна, рабіла велізарную работу, – працягвае распавядаць Рыгор Сітніца. – Мы арганізоўвалі дзясяткі выстаў, кожны год працавалі мастацкія салоны, канфедэрацыя выдала 80 альбомаў, у тым ліку прысвечаных беларускім мастакам Цвірко, Савічу, Шутаву, а таксама агульны альбом «Беларускае мастацтва». І потым: Цэнтральны дом мастака збудаваны на сродкі мастакоў. І суды раней, у 1992–1995 гадах, калі дзялілі ўласнасць, доказалі гэта! Справа ў тым, што ў Савецкім Саюзе існавала сістэма, пры якой у Мастацкі фонд СССР кожная рэспубліка рабіла адлічэнні. Разумееце? На гэтыя грошы і будаваліся аб'екты, у тым ліку і ЦДМ у Маскве, на гэтыя грошы купляліся ў фонд карціны ў нашых мастакоў. І тым не менш зараз расійская дзяржава захацела ўсё ў нас адабраць. І каму зараз дастанецца маёмасць? Нейкім прыватным асобам, чаго мы і баімся. Расцягнуць калекцыю… Але большая частка «канет в Лету». А там нашы Савіцкі, Кішчанка, Цвірко, Вашчанка, Шчамялёў, Паплаўскі – увесь наш цвет. Гэта быў не суд, а поўнае бязмежжа!

**Алена МАЛОЧКА.**

ТРАГЕДЫЯ

# «Яна хацела абняць бацьку...»

*У мінулую суботу загінула дачка вядомай беларускай паэткі і этнакультуролага* ***Антаніны Хатэнка****. Дзяўчына скокнула с паверха шматпавярховага дома. У яе застаўся 8-гадовы сын...*

"*Апошнім часам у Святаяны былі складаныя адносіны ў соцыуме, у яе не было працы, яна выхоўвала маленькага сына*, – распавяла "Народнай Волі" родная сястра Святаяны Міхаліна. – *Яна вельмі цяжка перажывала тое, што не магла знайсці працу. Яна скончыла ЕГУ, вельмі хацела займацца антрапалогіяй. Свята вучылася ў Пецярбургу на рэжысёра, але кінула вучобу, бо не хапала сродкаў на аплату навучання.*

*Яна вельмі часта гаварыла, што калі раптам яе не стане, то дзяржава будзе выплачваць на сына Мілана больш, чым яна зможа зарабіць...*"

Святаяне Емяльянавай 10 жніўня павінна было споўніцца 26 гадоў. Замужам яна не была, з грамадзянскім мужам разышлася.

"*Апошнія два тыдні яна казала, што вельмі хоча абняць бацьку...*" – распавядае Міхаліна. Бацька Міхаліны і Святаяны – беларускі паэт і перакладчык **Алесь Емяльянаў**, яго не стала ў кастрычніку 2005 года.

Развітанне са Святаянай Емяльянавай адбудзецца сёння, 18 ліпеня, на Паўночных могілках у зале крэматорыя.

"*Прыходзьце ўсе, хто можа і мае намер пабыць з маёй сям'ёй у горкую хвіліну "Больш ніколі"*, – напісала **Антаніна Хатэнка** на сваёй старонцы ў "Фэйсбуку". – *Дзякуем кожнаму, хто быў з намі цягам гэтых двух бясконцых і бегкіх содняў, калі спрабавалі супольна вызваліць Душу ў абраны ёю Нябесны шлях.*

*Просім загадзя вымеркаваць, як зладзіць павяртанне ў горад. Святаяна не прызнавала звычаю памінальных вячэр, страшылася гэтага і нават адмаўлялася ўдзельнічаць часам у пахаваннях бацькі і дзядуль-бабуль.*

*Мы лічымся з ейнай пазіцыяй, і вячэры спраўляць не будзем...*"

**Марына КОКТЫШ.**

***"Народная Воля" выказвае шчырыя спачуванні Антаніне Хатэнка і яе сям'і.***

«НЕПРИЧЕСАННОЕ» ПИСЬМО

# ...И всплывают перед глазами страшные эпизоды

Уважаемая редакция!

Может, мои воспоминания заинтересуют вас и будут полезны хоть на толику нашим людям. Прочитав их, они призадумаются о бренности своего бытия. Естественно, в силу своего интеллекта никаких глубоких социально-политических или философских мыслей я изложить не могу, но описанные события являются подлинными. Пусть оценку им дают читатели.

Вспомнилась моя первая и последняя загранпоездка. А точнее – один эпизод, связанный с ней. И имел место он в Югославии, в которой я в начале 1980-х годов оказался туристом. При посещении под Белградом горы Авала, на которой находится памятник благородному французскому народу от благодарных сербов, гид рассказал страшную историю.

Во время войны немцы установили у обелиска несколько пулеметов, простреливая при этом все пространство внизу. Красноармейцам пришлось ползти к памятнику на брюхе, толкая впереди убитого товарища, чтобы уничтожить огневые точки, поскольку командир полка приказал не применять артиллерию, так как она может снести памятник. В результате этой героической, но бессмысленной операции полегла целая рота бойцов, в том числе и три офицера. Всего, помнится, вроде 187 человек.

Когда я вслух сказал, что этого комполка, отдавшего такой бесчеловечный приказ, следовало бы признать военным преступником и отдать под трибунал, то услышал возгласы неодобрения со стороны советских туристов, хотя среди погибших могли быть и их братья, соседи, отцы. Когда я пытался завязать беседу, почему командир роты безропотно стал выполнять явно преступный приказ, то ничего не услышал, кроме слов: «Война, ничего не поделаешь».

Прошли десятилетия, а эта грустная история никак не выходит из моей головы. Все спрашиваю у себя: в чем причина такой реакции людей? И сам себе отвечаю: в той бесчеловечной системе, в которой жили и живем, потому что не можем вылезти из шинели т.Сталина.

Сейчас немного о нем. Когда он умер, я заканчивал начальную школу. И почему-то на уроке в день всенародной скорби засмеялся, за что был прямо за партой жестоко избит (указкой) учительницей по фамилии Гречко (имени и отчества ее не помню), но в деревне у нее была кличка «Качка». Она вызвала в школу моего отца, чтобы заклеймить «антисоветчика», и отец ничего другого не придумал, как вторично избить меня. В результате этой экзекуции я три дня не мог ходить в школу, мать едва отпоила какими-то травами. Она ходила к директору школы, пыталась жаловаться, но все бесполезно. Это было нормой поведения со стороны тех, кто поддался большевистскому зомбированию.

Я на отца в обиде не был, понимал, что он поступить иначе не мог. В западных областях коллективизация еще не завершилась, кругом царили страх, бесправие и унижение, а учительница была женой военнослужащего, если не ошибаюсь, старшины погранзаставы, на которой он работал завхозом.

Теперь о колхозе «Советский пограничник», который создали в нашей деревне. Мать при панской Польше была малоземельной, но все равно в артель вступать не хотела. Жили мы в доме маминой мачехи, занимая его меньшую часть. Отец был в примаках. До 1939 года жил в Варшаве, почему-то не был призван в польскую армию и про то, как оказался в родном селе, никогда нам, детям, не рассказывал. Я думаю, что, наслушавшись большевистской пропаганды, просто, избегая призыва, подался на Гродненщину. Откуда он был родом – точно сказать не могу. Но вспоминаю, что, когда я был уже взрослым, по телевизору показывали фильм «Красные листья», и отец, лежа на топчане, сильно скрипел зубами. Я спросил у матери: «Что с отцом?» Она ответила, что он возмущается, так как якобы был лично знаком с героем фильма и даже сватался к его старшей сестре. А семья Прытыцких не отличалась особым трудолюбием. Насколько это правда, не знаю. Мать, помню, рассказывала, что при поляках те, кто ленился и не хотел работать, становились революционерами, вступали в Коммунистическую партию Западной Белоруссии.

Как я уже упомянул выше, в начале 50-х годов прошлого столетия началась кампания по коллективизации, и крестьян насильно загоняли в колхозы. Три семьи из нашей деревни, наиболее зажиточные, выслали куда-то в Сибирь, а остальных обложили непосильными налогами. Для погашения этих налогов из Гродно приезжали фининспекторы с сотрудниками НКВД, все в хромовых сапогах, в синих галифе, при погонах и с пистолетами. Они фактически грабили народ, забирая все подряд. У нас уже и так чуть не все имущество было отнято, но в хлеву оставался поросенок весом 30–50 килограммов, которого они пытались увезти. Поросенок, видимо, предчувствуя беду, не хотел выходить из хлева. Новые хозяева в загородку заходить не хотели, чтобы не испачкать до блеска начищенные сапоги, поэтому приказали моей старшей сестре Терезе выгнать поросенка во двор. Она, испугавшись их грозного вида, стала выгонять его из хлева, и когда он пытался перепрыгнуть через порог, то мать упала на него, стала плакать, говоря, что ее дети умрут с голода. В ответ мы все услышали: «Других нарожаешь. Москва слезам не верит». Чтобы мать отпустила поросенка, стали толкать ее сапогами, а потом и бить. Я, рыдая, чтобы спасти мать, укусил зубами одного из них. В ответ энкавэдэшник достал пистолет и сказал: «Сейчас пристрелю этого малого пилсудчика…» Поросенок все-таки избежал экспроприации, дав деру в огород, а затем в кусты. Я стал спрашивать у матери, почему дядя назвал меня пилсудчиком, ведь фамилия моя иная – Пелудь. Мать ответила, что я еще малый и когда выучусь, стану грамотным и взрослым, то пойму слова большевика.

Если бы не погранзастава, откуда отец иногда привозил пару буханок хлеба, муку, в основном соевую, американскую тушенку, то мы, малые дети, умерли бы с голода.

И все же в 1956 году отец вынужден был вступить в колхоз, его назначили бригадиром садово-огороднической бригады. Он был трудоголиком, а может, собирался построить коммунизм в отдельной деревне. Дневал и ночевал на колхозном огороде, летом брал старшую сестру Терезу, меня и младшую сестру Марию с собой на работу, потом заставил меня перейти учиться в вечернюю школу, и я работал с ним уже постоянно.

В моем пенсионном деле имеются справка и трудовая книжка, что до поступления в техникум я работал в колхозе «Советский пограничник» с 14 лет, за что не получил ни гроша, ни зернышка, то есть был хуже раба, которого хозяин хоть одевал и кормил. Вспоминаю слезы матери, которая разбавляла молоко водой, дав кусочек хлеба, и отправляла меня на работу.

Самое интересное заключается в том, что когда мне начислялась пенсия, то эти годы в общий трудовой стаж не вошли, ибо, согласно уставу артели, колхозником мог быть гражданин, достигший шестнадцатилетнего возраста. То, что на протяжении двух лет у меня был выработан минимум трудового участия, то есть по 280 выходов на работу, никто не принял во внимание. Вот так мой труд «по достоинству» оценен государством, и за более чем шестидесятилетний стаж с учебой, службой в армии получаю 300 рублей пенсии. Из этого делаю вывод, что живу в социально ориентированном государстве, так как умереть с голода, как в детстве, оно мне не даст.

После войны государство было бедным и оплатить мой труд не могло, а назначить мне и другим таким же лицам приличную пенсию не захотело, поскольку у него другие приоритеты (несметное количество людей в погонах, судейских мантиях, а тут еще фестивали, чемпионаты, «полонезы», «Линия товарища Сталина» и т.д.).

Вот так и живем, экономим на всем и вроде бы довольны жизнью. Главное у большинства народа: абы не было войны. Лично я своим положением недоволен, ибо не могу понять, где стыд у власть имущих, что довели многих людей до обнищания. Дело даже не в моей мизерной пенсии, а в том, что честно жил, не крал, не брал, никого не оболгал, не обидел, а стал человеком как бы второго сорта.

Думаю, что причина вот в чем: как писал великий классик, на свет поднять боимся очи. Видимо, мы трусливы в большинстве своем, пассивны, не можем постоять за себя. Вот и мое негативное отношение к режиму заключается только в том, что я ни разу не ходил на выборы, а вся оппозиционность – с детских лет слушал радио «Освобождение», потом «Свободу». Вот уже много лет покупаю и читаю «Народную Волю», которую очень люблю. Иногда пытаюсь поделиться услышанным и написанным с 30–40-летними, но многим из них все безразлично, они от меня отмахиваются, хотя и не все жируют. Вот такой парадокс, такой менталитет у значительной части соотечественников.

Пользуясь случаем, хочу провести параллель между коммунистами-большевиками и нацистами. Это, считаю, одного поля ягоды и по своей кровавой сути друг от друга мало чем отличаются. И одни, и другие причинили людям много горя и бед. Хотя ради справедливости скажу: и среди них были порядочные, достойные люди. К примеру, я родился на свет в самый разгар Сталинградской битвы. И вскоре заболел бронхопневмонией. В 1944 году, по словам матери, надежды на выживание не было. Она в отчаянии пошла к отступающим немцам и упросила их медика спасти меня. Тот откликнулся на ее горе и стал делать мне уколы, благодаря чему я выжил, а ведь лекарства очень были нужны больным и раненым немцам.

Или другой пример. Начальник погранзаставы, где отец какое-то время работал завхозом, был коммунистом, в звании капитана. Он входил в состав какого-то органа при местной власти (по-видимому, сельсовета) и всегда старался предупредить отца о предстоящей облаве со стороны фининспекторов. И тогда родители прятали какое-то имущество от принудительного изъятия.

Этот человек с партийным билетом подсказал отцу, что против него готовится провокация, а потому надо срочно вступать в колхоз, иначе ему подкинут трофейный пистолет, после чего арестуют, ибо он своим упрямством провоцирует народ. Отец вынужден был стать членом колхоза, чем спасся от неминуемой гибели.

Хотелось больше обо всем написать, но рад буду увидеть на страницах «Народной Воли» хотя бы эти мои воспоминания. Может, кого-то они заставят задуматься.

С уважением ко всем сотрудникам редакции –

**Эдвард Иосифович ПЕЛУДЬ, житель г.Полоцка.**

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# «Верасень» прыйшоў!




Выйшаў з друку чарговы, шаснаццаты па ліку, нумар літаратурна-мастацкага часопіса “Верасень”. Паэзія ў часопісе прадстаўлена вершамі **Вікторыі Смолка, Аліны Паўлоўскай, Марыі Бадзей, Веранікі Міхалёвай, Марыны Валасар, Ганны Рудак, Марыі Магдалены Палхоўскай, Кацярыны Шчаснай, Дар’і Дарошка, Аляксея Лужынскага, Антаніны Хатэнка.**

Раздзел “Проза” складаюць апавяданні **Аляксея Палачанскага, Таццяны Казановіч, Яўгена Мартыновіча, Аляксандра Труса, Паўла Ляхновіча, Вінцэся Мудрова.**

У раздзеле “Пераклады” друкуюцца вершы ўкраінскай паэткі **Людмілы Юферавай** у перакладзе **Зміцера Шчарбіны**, а таксама ўспаміны **Пятра Франко**, пераствораныя па-беларуску **Юрыем Кур’яновічам**.

Раздзел «Драматургія» прадстаўлены трагіфарсам **Эдуарда Дубянецкага** “Дэвальвацыя”.

Раздзел “Крытыка” адкрывае артыкул **Таццяны Мацюхінай** аб неарамантычных матывах у паэзіі **Уладзіміра Жылкі**. Сакрэтамі творчай кухні ў гутарцы з **Эдуардам Акуліным** дзеліцца **Людміла Шчэрба**. Друкуюцца настальгічныя эсэ **Алеся Гібка-Гібкоўскага** і **Раісы Крывальцэвіч**. Аб ролі кнігі ў жыцці чалавека – гутарка **Тамары Аўсяннікавай** з **Эдуардам Мядзведскім**. Аб жыццёвых “шляхах і кратах” **Валянціна Таўлая** – аднайменны артыкул **Сяргея Чыгрына**. На пытанне “Што можна сыграць на гармоні?” адказвае ў сваім артыкуле пра хальчанскага музыканта Емяльяна Бабкова **Генадзь Лапацін**. Крытычную ацэнку новай кнігі **Аляксея Арцёмава** “Скрозь кіламетры” дае ў сваёй рэцэнзіі “Унук Багдановіча?..” **Анатоль Трафімчык**.

Вокладку нумара стварыла **Дар’я Бунеева**. Мастацкае афармленне і ілюстрацыі – **Валерыя Праслава**.

Запытвайце пра “Верасень” №16 на сядзібе ТБМ (Румянцава, 13). Чытайце “Верасень” на сайтах: **Kamunikat.org** і **tbm-mova.by**. Дасылайце свае творы ў “Верасень” на адрас: **verasenchas@gmail.com.**

**Эдуард АКУЛІН.**

ФЕСТЫВАЛЬ

# Апынуцца ў 1410 годзе...

*22–23 ліпеня ў музейным комплексе “Дудуткі” пройдзе Міжнародны фестываль сярэднявечнай культуры і музыкі “Наш Грунвальд-2017”.*



Дзявяты фэст традыцыйна будзе прысвечаны ваеннай і свецкай культуры, традыцыям нашых продкаў, а самай галоўнай падзеяй стане, безумоўна, рэканструкцыя самай масштабнай бітвы сярэднявечнай Еўропы, якая адбылася 15 ліпеня 1410 года паміж войскамі Тэўтонскага ордэна і саюзнікаў: Вялікага Княства Літоўскага і Каралеўства Польскага.

Што ўбачаць тыя, хто вырашыць наведаць фестываль?

“*У тэатралізаванай рэканструкцыі эпізодаў легендарнай бітвы возьмуць удзел прадстаўнікі ваенна-гістарычных клубаў з Беларусі, Украіны, Польшчы, Расіі і краін Балтыі,* – распавялі арганізатары мерапрыемства. – *На працягу двух фестывальных дзён пройдуць рыцарскія турніры, адбудзецца турнір лучнікаў, масавыя бітвы, відовішчныя конныя турніры па правілах XIV стагоддзя, вялікі канцэрт з удзелам лепшых фолк- і рок-калектываў з розных краін. Таксама пройдуць майстар-класы па сярэднявечных танцах і рамёствах, будуць працаваць горад майстроў, інтэрактыўныя пляцоўкі, а ў гэтым годзе на фестывалі яшчэ і прадставяць рэканструкцыю плаўкі руды па тэхналогіях IX стагоддзя*”.

У дні фестывалю з Мінска ў Дудуткі будуць хадзіць дадатковыя аўтобусныя маршруты, а з Рудзенска арганізуюць бясплатныя “шатлы”. Квіткі на мерапрыемства для дарослых каштуюць ад 18 да 24, для дзяцей – 8–10 рублёў.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ДЛЯ ВЯСЁЛАЙ КАМПАНІІ



## Рэчанька

Словы і музыка народныя

Ой, рэчанька, рэчанька,
Чаму ж ты няпоўная?
Люлі, люлі, люлі,
Чаму ж ты няпоўная? } 2 разы

Чаму ж ты няпоўная,
З беражком няроўная?
Люлі, люлі, люлі,
З беражком няроўная? } 2 разы

А як жа мне поўнай быць,
З бераждкамі роўнай плыць?
Люлі, люлі, люлі,
З бераждкамі роўнай плыць? } 2 разы

Янка коніка паіў,
Маня ваду чэрпала…
Люлі, люлі, люлі,
Маня ваду чэрпала… } 2 разы

СУСТРЭЧЫ

# «Уладкоўваўся часова, а адпрацаваў ужо 20 гадоў»

*Жыхар вёскі Пуцілкавічы Міхась СЫС даглядае музей Петруся Броўкі пад Ушачамі.*

Ад раённага цэнтра да Пуцілкавічаў каля 30 кіламетраў. Трапіць на малую радзіму знакамітага паэта можна па разбітай жвіровай дарозе без указальнікаў. Калі турыст без навігатара, то прыйдзецца паблукаць па наваколлі.

Музей Петруся Броўкі адкрылі ў 1985 годзе. Міхась Сыс працуе тут экскурсаводам, а таксама сочыць за домам. На плячах мясцовага жыхара акрамя афіцыйных абавязкаў касьба, рамонт і гэтак далей.

– *Падчас вайны тут была партызанская зона,* – распавядае Міхась Леанідавіч. – *Вёску спалілі, у тым ліку і бацькоўскі дом Петруся Броўкі. Макет дома стваралі па ўспамінах аднаго з мясцовых жыхароў, які ўжо памёр.*

Калісьці Пуцілкавічы былі вялікай вёскай з кузняй і млыном. Зараз тут засталося ўсяго 5 дамоў, дзе свой век дажываюць мясцовыя жыхары. Школы паблізу няма, а дзяцей па навакольных вёсках збірае спецыяльны аўтобус і дастаўляе ў навучальную ўстанову за 15 кіламетраў.

Вакол засталіся забітыя будынкі і хаты з аб’явамі аб




продажы.

– *Да рэвалюцыі тут сплаўлялі лес па рацэ Ушача,* – кажа экскурсавод з Пуцілкавічаў. – *Насельніцтва было шмат, але з часам яно толькі памяншалася. Моладзі ў вёсцы зусім няма.*

Аднаўленая хата беларускага паэта даволі вялікая па плошчы. Як тлумачыць Міхась Сыс, Пятрусь Броўка нарадзіўся ў шматдзетнай сям’і.

– *Самы старэйшы быў Андрэй,* – па памяці пералічвае імёны мой суразмоўца. – *Ён у Полацку працаваў. Потым Пятрусь, Алесь, Кастусь, Сцяпан, Лявон. У сям’і 6 братоў і 4 сястры было.*

У музеі ў асноўным прадстаўлены копіі фотаздымкаў паэта ў розныя перыяды жыцця, сумесныя здымкі з Янкам Купалам і Якубам Коласам, зборнікі вершаў і некалькі асабістых рэчаў. Асобныя экспанаты вывезлі з Пуцілкавічаў у галоўны музей Петруся Броўкі ў Мінску.

– *Тут знаходзіліся каштоўныя рэчы,* – распавядае Міхась Сыс. – *Але кіраўніцтва вырашыла, што трэба іх забраць у Мінск. Былі арыгінальныя кнігі Шаўчэнкі, часопісы пачатку XX стагоддзя, даваенныя паштоўкі... Мне пакінулі толькі попельніцу і чарніліцу Петруся Броўкі.*

Сам Міхась Сыс даводзіцца далёкім сваяком паэту па матчынай лініі. Прызнаецца, што ў музей працаўладкоўваўся часова, а адпрацаваў ужо 20 гадоў. Міхась Леанідавіч такі чалавек, які будзе і бясплатна сачыць за хатай і захоўваць памяць пра беларускага літаратара. Не думаю, што вялікія грошы плацяць экскурсаводу ў вясковым музеі, але, мяркуючы па тым, як ідэальна абкошана трава на ўчастку, свае абавязкі мужчына выконвае добрасумленна.

– *За любым домам трэба глядзець,* – сціпла кажа работнік музея. – *І ў горадзе, і ў вёсцы... Вось парог зноў у рамонце мае патрэбу, рабіць буду. Абкошваю траву рэгулярна, каб прыемны і дагледжаны выгляд быў. Карыстаюся звычайнай касой, але абяцалі дапамагчы з электрычнай, праўда, пакуль не дапамаглі.* (Смяецца.)

За гады працы музей наведалі многія чыноўнікі, паслы, літаратары… Прыязджае нямала школьнікаў з Ушачаў і суседніх раёнаў.

– *Вершы Броўкі перакладзены на шматлікія мовы,* – кажа Міхась Леанідавіч. – *У тым ліку і на літоўскую. Некалькі гадоў таму прыязджаў літоўскі пасол, то не мог адарвацца ад зборніка. Вельмі яму спадабалася паэзія Усцінавіча. Каб памяць аб нашых славутых земляках захоўвалася, нам самім аб іх нельга забываць.*

**Раман ВАСЮКОВІЧ.**
**Фота аўтара.**

ПАМЯЦЬ

## «Музеі павінны быць, але цалкам у іншым выглядзе»

Сваё меркаванне аб стане рэгіянальных музеяў беларускіх класікаў «Народная Воля» папрасіла выказаць літаратара і выкладчыцу Ганну Севярынец.

– *Практычна ўсе класікі, на якіх трымаецца наша літаратура, з вёсак,* – сказала Ганна Канстанцінаўна. – *У пасёлку Глуша пад Бабруйскам нарадзіўся і пахаваны Алесь Адамовіч, Манькавічы – гэта адзінае месца ў Беларусі, якое захоўвае геаграфічную памяць аб Уладзіміру Дубоўку, і спіс можна працягваць. Гэта менавіта тыя аўтэнтычныя месцы, якія нельга забываць. Расія, напрыклад, памятае Канстанцінава, Тарханы, Пушкінскія горы. Таму ў нас няма іншага выйсця: музеі беларускіх класікаў мы павінны ствараць і берагчы. Яны працаваць павінны, але іншая справа, у якім выглядзе. Па дарозе ў музей Петруся Броўкі няма нават указальнікаў. Такая ж сітуацыя і на маладзечанскай трасе па дарозе ў Ракуцёўшчыну Максіма Багдановіча. Музеі павінны быць, але цалкам у іншым выглядзе.*

ДУХОЎНЫ СКАРБ

## Не размінуцца з прыгажосцю

Калі вы яшчэ не знаёмы з прозай і вершамі таленавітай беларускай пісьменніцы і паэткі Марыі Вайцяшонак – раю паспяшацца, каб не размінуцца з прыгажосцю.



У яе цудоўная, непараўнальная родная мова: ад глыбінь і каранёў нашай зямлі.

І ў таго, каго яшчэ не захапіла роднае слова, пасля знаёмства з творчасцю спадарыні Марыі – гэта абавязкова адбудзецца!

У друку выйшлі некалькі зборнікаў прозы і паэзіі Марыі, апошні, “Тварам да зімы”, у 2016 годзе. На жаль, іх ужо не знойдзеш ў кнігарнях, але тэксты друкуе “Дзеяслоў”, “Новы час”, “ARCHE”».

У “Фэйсбуку” кожны тыдзень можна чытаць расповеды Марыі “На прызбе ў Сілічах” пра былое і сучаснае, пра птушак і расліны, аблокі і кветкі, сяброў і суседзяў... Гэта чароўнае чытво!!!

Кожны раз я чакаю гэтыя новыя аповеды, як сустрэчы з каханнем.

А калі «шукаю» раўнавагі, то бясконца перачытваю вершы спадарыні Марыі, і мне складана вызначыць, які мне больш падабаецца, бо яны ўсе кранаюць маю душу.

Таленты Марыі не абмяжоўваюцца літаратурай: яе фотаздымкі адлюстроўваюць талент мастачкі, дызайнеркі, стваральніцы цудаў.

Вось два вершы Марыі Вайцяшонак з кніжкі “Тварам да зімы”:

### Адлюстраванне

*Ляціш насустрач*
*да чалавека*
*як да Бога*
*спяшаешся*
*прымаючы*
*бліскучае*
*чужое вакно*
*за неба*
*і разбіваешся*
*не каюся*
*бо чыста*
*забываюся*
*і зноў ляціш.*

***

*Не здрадзіш*
*не згубіш*
*мову*
*на якой*
*любіш.*

**Валянціна ДУБРОЎСКАЯ.**

ЗВЕЗДНЫЙ ГОСТЬ

# Александр ЗАЦЕПИН: «Жизнь пролетела как одно мгновение…»

*На «Славянском базаре» с аншлагом прошел юбилейный концерт композитора Александра Зацепина. В Витебске 91-летний маэстро был впервые.*



«Здесь я встретил людей, которых очень давно не видел, наконец-то смог поговорить с Ларисой Долиной, – *делился за кулисами впечатлениями знаменитый автор.* – Сразу вспомнилось, как записывались песни. Лариса тогда была еще совсем молодая. Кстати, в то время мою музыку не очень приветствовали в Советском Союзе. Так что все было непросто, но очень интересно».

**– Знаю, что в детстве вы ненавидели математику, хотя с музыкой у этой науки много общего. Но возможно ли «просчитать» хит?**

– Нет! Это ведь все идет оттуда, сверху. И никогда нельзя сказать, что в конце концов «выстрелит». У меня был забавный случай с песней «Волшебник-недоучка». Ее и еще одну лирическую композицию я написал для фильма «Отважный Ширак». Никто, наверное, уже и не вспомнит этой картины, а песня все живет. Так вот, сценарист «Ширака» тогда мне говорил, что «Волшебник» никогда не станет известным. Ему больше нравилась вторая композиция, и именно ей он предрекал счастливую судьбу. А вышло, как видите, все наоборот.

**– Недавно ваш коллега Эдуард Ханок запретил Ядвиге Поплавской и Анатолию Ярмоленко исполнять свои песни, потребовав с артистов немалые деньги. Что вы об этом думаете?**

– Честно говоря, я впервые об этом слышу, но не очень понимаю, как то, о чем вы мне рассказываете, возможно…

**– Александр Сергеевич, в триаде «талант, удача, труд» какое место отведете удаче?**

– Конечно, талантливый человек должен очень много работать, но случай играет огромную роль! Например, если бы Гайдай не поссорился с Никитой Богословским, моя судьба как кинокомпозитора сложилась бы совершенно иначе. Или, скажем, Алла Пугачева… Мой знакомый музыкант рассказал, что видел в самодеятельности девушку, которая очень неплохо поет и предложил мне пойти на нее посмотреть. А я ведь мог и не согласиться… Вот вам и случай! С Пугачевой, кстати, было очень легко работать. Она всегда сама себе аккомпанировала на рояле, была подготовленной, собранной. Это сейчас люди не знают нотной грамоты и на сцену выходят. А тогда все было немного по-другому.

**– Эльдар Рязанов в одном из своих интервью рассказывал, почему последние годы своей жизни он практически не снимал кино: не стало его любимых актеров, его друзей. А в вашей жизни сегодня есть артисты, авторы, которые вдохновляют на создание новых песен?**

– Песни я уже не пишу. Нет моих поэтов, моего Лени Дербенева. Давно ушел из жизни Леонид Гайдай, а с другими кинорежиссерами как-то не складывается. Поэтому сейчас я переключился на мюзиклы. В Санкт-Петербурге идет мой спектакль «31 июня», ставим «Тайну третьей планеты». Кое-какие творческие планы есть и на следующий год.

**– Есть только миг между прошлым и будущим… Именно он называется жизнь?**

– Все было очень быстро, жизнь и вправду пролетела как одно мгновение. Жаль, что многое уже никогда не вернется. Но зато какие остались воспоминания!

**Алина СТРАШКЕВИЧ.**

Народная Воля http://www.nv-online.info
18 ЛІПЕНЯ 2017 г.

ТЭНІС



# Рванула!

*У рэйтынгу Сусветнай тэніснай асацыяцыі Вікторыя Азаранка ўзнялася пасля Уімблдонскага турніру адразу на 482 пазіцыі.*

Нагадаем, што беларуская тэнісістка, якая не так даўно вярнулася ў вялікі спорт пасля нараджэння сына і перапынку, на Уімблдоне дайшла да 1/8 фіналу, дзе саступіла другой ракетцы свету Сімоне Халеп.

Тым не менш гэта дазволіла Азаранка значна палепшыць свае пазіцыі. А ўзначаліла рэйтынг упершыню ў сваёй кар'еры 25-гадовая тэнісістка з Чэхіі Караліна Плішкова.

**Віктар ШПАК.**

КАДРЫ

# «Шахцёр» будзе з Зубам

*З 19 ліпеня з салігорскай футбольнай камандай пачне працаваць польскі спецыяліст.*

Галоўным трэнерам салігорскага "Шахцёра" стане паляк **Марэк Зуб**. Раней ён трэніраваў каманды ў Польшчы, Літве, Кітаі, а сёлета працаваў галоўным трэнерам "Спартака" з Юрмалы.

Нагадаем, «Шахцёр» пад кіраўніцтвам Кубарава прайграў у фінале Кубка Беларусі брэсцкаму «Дынама», а таксама вылецеў з Лігі Еўропы ў першым кваліфікацыйным раўндзе, саступіўшы літоўскай «Судуве». Аднак «гарнякі» пасля першага круга лідзіруюць у чэмпіянаце Беларусі.

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

МЧС ПРЕДУПРЕЖДАЕТ...




ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

# Кожнаму сваё...

*У Расіі беларускія хакеісты вымушаны рабіць выбар.*

Днямі чалябінскі «Трактар» скасаваў кантракт з беларускім абаронцам **Уладзімірам Дзянісавым**, якому прапаноўвалі змяніць грамадзянства. Але беларус адмовіўся. Справа ў тым, што ў Расіі ліміт на замежных хакеістаў. Зрэшты, ужо вядома, што Дзянісаў без працы не застаўся – ён падпісаў кантракт з мінскім "Дынама".

А вось капітан хакейнай зборнай Беларусі Андрэй Стась прыняў расійскае грамадзянства. Як заявіў генеральны менеджар омскага "Авангарда" Віктар Шалаеў: *"Стась не з'яўляецца для «Авангарда» шостым легіянерам. У нас ёсць пацвярджэнне з Федэрацыі хакея Расіі: беларускі хакеіст атрымаў расійскае грамадзянства, у тым ліку і спартыўнае".*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## Хто вы, спадар Энрат?

***Чуў, што за хакейнае мінскае "Дынама" ў гэтым сезоне будзе гуляць вядомы ў свеце варатар. Можаце распавесці пра яго больш падрабязна?***

**Андрэй КАРПОВІЧ, г.Столін.**

**– Клуб паведаміў, што з 29-гадовым шведскім галкіперам дасягнута дамоўленасць аб падпісанні аднабаковага кантракта, які разлічаны на год.**

Юнас ЭНРАТ з'яўляецца ўладальнікам "золата" чэмпіянату свету-2013, "серабра" Алімпіяды-2014, "серабра" маладзёжнага першынства свету-2007 у складзе зборнай Швецыі. Паспрабаваў сябе швед і ў НХЛ, выступаючы за клубы "Бафала", "Далас", "Таронта"...

Дарэчы, днямі міністр унутраных спраў Ігар Шуневіч, які ўзначальвае назіральную раду хакейнага клуба «Дынама-Мінск», падчас сустрэчы з новым трэнерскім штабам каманды паставіў перад ёй "задачу-мінімум" – выйсці ў плэй-оф Кантынентальнай хакейнай лігі. Вось так – ні больш, ні менш...

## За што асудзілі былога іграка зборнай Беларусі па футболе?

***Сачыў за ваколфутбольнай крымінальнай справай, ведаю, што кіраўніка судзейства і інспектавання Беларускай федэрацыі футбола Андрэя Жукава ў гэтым годзе ўжо асудзілі за хабарніцтва на 5 гадоў пазбаўлення волі. Але ж у справе фігураваў і трэнер Мікалай Рындзюк, які ў свой час нават выступаў за зборную Беларусі. Які яго лёс?***

**Сяргей АРТАМОНАЎ, г.Маладзечна.**

– Суд над Рындзюком таксама прайшоў, яго асудзілі на 2 гады папраўчых работ з утрыманнем 25 працэнтаў заробку на карысць дзяржавы.

Нагадаю, што Мікалай Рындзюк быў галоўным трэнерам "Смаргоні". Паводле матэрыялаў справы, ён даў 100 еўра Жукаву, каб той прызначыў "правільнага" суддзю на матч з "Оршай" у футбольным чэмпіянаце Беларусі ў першай лізе.

## Ці надоўга затрымаецца ў Беларусі Мілеўскі?

***Падчас матча Лігі Еўропы паміж аўстрыйскім "Рэйндорфам" і брэсцкім "Дынама" за беларускую каманду выступаў Арцём Мілеўскі. Гэта той самы скандаліст, які ў харвацкім клубе "пратрымаўся" ўсяго месяц?***

**Валянцін ЛЕПІН, Мінск.**

– Скандальная слава і насамрэч нярэдка суправаджае беларускага футбаліста, які ў свой час прыняў украінскае грамадзянства. Напрыклад, 5 кастрычніка 2015 года Мілеўскі падпісаў кантракт з харвацкім клубам "Спліт", а ўжо 5 лістапада пагадненне было скасавана. Паводле інфармацыі харвацкіх СМІ, футбаліст быў затрыманы мясцовай паліцыяй за рулём у нецвярозым стане, і клуб вырашыў, каб не псаваць свой імідж, развітацца з ім.

Былі, безумоўна, і іншыя скандалы, але ўсё гэта, спадзяёмся, у мінулым, таму сёння пра старое лепш не ўспамінаць. Зараз Арцём Мілеўскі падпісаў з брэсцкім "Дынама" кантракт, які разлічаны на 1,5 года. Няхай радуе нас галамі, а не скандаламі!

## У Беларусі расце яшчэ адна «залатая рыбка»?

***Вельмі прыемна было прачытаць навіну, што днямі 14-гадовая беларуская плыўчыха Анастасія Шкурдай заваявала "золата" юніёрскага чэмпіянату Еўропы па плаванні, выйграўшы фінальны заплыў на дыстанцыі 50 метраў батэрфляем. Падрастае змена нашай славутай Аляксандры Герасіменя?***

**Валянцін ПАЎЛОВІЧ, г.Пінск.**

– Брэсцкая плыўчыха Насця Шкурдай і праўда вельмі таленавітая дзяўчынка, яна стала самым маладым майстрам спорту міжнароднага класа ў гісторыі айчыннага плавання. У 14 гадоў такога ўзроўню не дасягаў ніхто!

Яе вынікі не могуць не радаваць. Напрыклад, на юніёрскім першынстве Беларусі Насця заваявала пяць медалёў, пяць ліцэнзій на Алімпійскі фестываль моладзі Еўропы і ўстанавіла два юніёрскія рэкорды. Будзем спадзявацца, што і ў дарослым спорце таленавітая спартсменка парадуе нас у будучым сваімі перамогамі.

**Падрыхтаваў Алесь СІВЫ.**

ШАШКІ

## Суаўтарская знаходка

З далёкага Башкартастана на электронны адрас вядучага рубрыкі даслаў задачу **Рустам Шаяхметаў**. Гэты твор – прыклад суаўтарскай творчасці. З чорнай шашкай h8 замест d8 і з белай шашкай замест дамкі на g5 атрымліваецца задача **А.Багуслаўскага** 1951 года. Нязначная перастаноўка прывяла да значнага павялічвання зместу новай кампазіцыі.



№1 **Белыя**: дамкі e5, g1, g5, шашкі e3, f4, f6, h2 (7).

**Чорныя**: дамка g3, шашкі h6, h8 (3).

g7(f8**AB**), e7, b8, f4, h6, g7, f4, f2(f6**C**), g5, hg3 x. **C**(h6), g5, hg3, g1 x. **A**(f2), e3, ef4, f4 x. **B**(h4), b8, g3, c5/a7, f2(h4**D**), hg3 x. **D**(f4), hg3, g1 x.

## Галерэя адэскіх шашачных кампазітараў

Для самастойнага рашэння прапануем кампазіцыі аўтараў адэскага рэгіёна суседняй Украіны. Знайдзіце выйгрыш за белых пры іх першым ходзе.

№2 **Белыя**: b6, c1, d2, d4, f4, g5 (6).

**Чорныя**: a7, b4, c5, e3, f2, h2 (6).

№3 **Белыя**: a7, b6, g3, h4 (4).

**Чорныя**: d8, e3, e5, f6, g5, h6 (6).

Аўтар №2 і №3 – **Анатоль Баланюк** (г.Цепладар). Наступныя творы належаць **Сяргею Губачкіну** (Адэса).

№4 **Белыя**: e5, f4, f6, g5, g7, h2 (6).

**Чорныя**: a3, c5, c7, d2, d6, e3, h4 (7).

№5 **Белыя**: b4, b6, c5, d6, f4, g7, h6 (7).

**Чорныя**: a3, b8, d2, d4, e3, f2, g5 (7).

## Знакаміты аўтар

Мы пісалі пра юбілей вядомага беларускага шашачнага кампазітара і ігрока-практыка **Валерыя Свізінскага**. У яго багатай шашачнай біяграфіі 7 (!) перамог над чэмпіёнамі свету ў афіцыйных спаборніцтвах і шмат знаходак у шашачнай кампазіцыі. Знаёмім з новымі творамі аўтара, якія ён прапанаваў спецыяльна для нашай рубрыкі.

№6 **Белыя**: b2, b6, f6, g1, g5, h2, h6 (7).

**Чорныя**: a7, b8, d4, d6, e5, f8, g7, h4, h8 (9).

a3, b4, g3, e7, b4!(g7**A**), h6! x **A**(c5), b6(g7), a7 x.

№7 **Белыя**: a7, c3, d2, f2, g3, g5 (6).

**Чорныя**: b8, c7, d4, d6, e5, e7, g7 (7).

h4, c3, f6, h8(c5), e3, g1(b6), h2(a5), e5(c7, d4), c7(c3), ab8(b2), b6, a1 x.

№8 **Белыя**: a5, c3, e3, e5, f4, h2 (6).

**Чорныя**: a7, b8, c7, d6, e7, g3, g7 (7).

b6(c5), ed4, f8, g3(d6), c7, d4 x.

Наступная праблема – бразільскія шашкі. Нагадаем, што ў бразільскіх шашках гульня вядзецца па правілах міжнародных шашак на 64-клетачнай дошцы.

№9 **Белыя**: a3, b2, c1, c3, d2, d4, e3, g3, h4 (9).

**Чорныя**: a7, b6, b8, c5, c7, e7, f6, f8, h6 (9).

gf4(cd6), ab4, fe5, g5, c5, g7, e3, e3(a1), f4, d8 x.

## Кампазіцыі ў міжнародныя шашкі

Знаёмім з новымі творамі вядучага рубрыкі.

№10 **Белыя**: 12, 21, 23, 24, 25, 28, 29 (7).

**Чорныя**: 9, 11, 18, 40, 43, 45 (6).

17, 49, 3(50), 44, 45 x.

№11 **Белыя**: 7, 12, 16, 18, 22, 25, 40, 42, 43, 44, 48, 49 (12).

**Чорныя**: 1, 3, 9, 11, 19, 21, 27, 29, 30, 31, 33, 34, 45 (13).

17, 8, 7, 42-38, 8, 43-39, 3, 38, 39, 27 x.

№12 **Белыя**: дамкі 16, 26, шашкі 11, 32, 33, 37, 39, 50 (8).

**Чорныя**: дамкі 1, 12, 48, шашкі 8, 22, 24, 25, 30, 34 (9).

6(31**A**), 48, 7(21), 2(35, 34), 1(39), 1-45(43), 40, 48 x. **A**(43), 44, 7(1:40:21**B**), 2(35, 34), 1(35-40), 33-29, 45 x. **B**(1:29:21), 2(35, 34), 1(35-40, 39), 34, 24 x.

## Супаставім рашэнні

Рашэнне пазіцый бліц-конкурсу "НВ" ад 4 красавіка 2017 года.

№2 – c5, c7, d8(выйграе і f8, e1, hg3), e1, hg3 x.

№3 – d8(e5), e7(f2**A**), h4, a3 x. **A**(b6), a3, g3/h4 x.

№4 – g3, c3(d2**A**), e3, d8 x **A**(b2), ea3(cb6**B**), ac5(d4), c5 x. **B**(f8), gc5 x.

№5 – d2(a1**a**), de3, f8, e1, e3, h8 x. **a**(e1), f8, e7, h4 x.

Дакладныя адказы даслалі: **Аляксандра Камінская** (Вілейка.), **Юрый Голікаў** (Цвер, Расія), **Віталь Варушыла**, **Іван Наўроцкі, Эдуард Дамброўскі** (Мінск), **Аляксандр Шурпін** (Івянец), **Уладзімір Бандарык** (Лугавая Слабада Мінскага раёна), **Мікалай Зайцаў** (Баранавічы), **Рыгор Краўцоў** (в.Рублеўск Круглянскага раёна), **Уладзімір Валчкоў** (Маладзечна), **Леанід Жыхар, Фёдар Карпей** (Мядзел), **Уладзімір Сергіеня** (в.Войкава Уздзенскага раёна), **Ігар Ананіч** (Гродна), **Аляксандр Голуб** (п.Талька Пухавіцкага раёна). Дзякуем за лісты і спадзяёмся на вашу далейшую актыўнасць!

Пераможца – **Аляксандр Шурпін**.

Свае лісты дасылайце на адрас: ***220030 Мінск, вул. Энгельса, 34а, "Шашкі"***

або на электронныя адрасы рэдакцыі: ***saf20016@yandex.ru, shulga.checkers@gmail.com***.

**Віктар ШУЛЬГА,**
**міжнародны майстар спорту па шашачнай кампазіцыі.**




ДЕЛИМСЯ ОПЫТОМ

## Тонкое это дело – работать с химикатами

Пестициды наношу на растения мелким распылом, особенно тщательно на нижнюю сторону листьев. Наконечники аппаратов держу на расстоянии примерно 0,5 м от ветвей, не задерживая их на одном месте. Вначале опрыскиваю верхнюю, затем среднюю и наконец нижнюю часть кроны. Учитываю направление ветра, чтобы растворы и смеси не попадали на меня. При опрыскивании плодовых деревьев, находящихся вблизи от плодоносящей земляники, овощных зеленых культур, ягодных кустарников и других растений, до уборки урожая которых остается меньше 30 дней, их закрываю синтетической пленкой.

В жаркое время года опрыскивание провожу в утренние часы (после того как высохнет роса) и вечером (до выпадения росы). Если температура воздуха снизится ниже 5ºС, растения не опрыскиваю. Опыливание провожу по росе. Не работаю с химикатами перед дождем, сразу после него, а также во время сильного ветра.

Рабочие растворы применяю день их приготовления. Строго соблюдаю допустимые концентрации, нормы расхода пестицидов и технологию приготовления рабочих смесей. Растворы суспензии и эмульсии тщательно фильтрую и перемешиваю. При опрыскивании быстрооседающими составами время от времени их встряхиваю.

**Владимир МИКША,**
**садовод-любитель.**

*Минск.*

УЧЕНЫЕ РЕКОМЕНДУЮТ

## Чеснок против вредителей и болезней

Настои и отвары чеснока эффективны и против вредителей, и против болезней. Против болезней используют перебродивший настой чеснока: 400 г свежего измельченного чеснока на 10 л воды. После прекращения брожения жидкость разводят в 10 раз и поливают почву между растениями. Неразбавленным настоем обрабатывают молодые растения моркови для отпугивания морковной мухи.

Настой чеснока от тлей, клещей, медяниц готовят следующим образом: 200–500 г свежего чеснока измельчают, заливают 3–5 л воды, настаивают 5 суток (или заливают 2 л горячей воды, настаивают сутки). Настой отжимают, процеживают, доводят до 10 литров. Раствор можно хранить в закрытой посуде в течение всего сезона. Перед применением разводят в 5 раз.

Настой чеснока подавляет возбудителей фитофтороза и мучнистой росы. Первое опрыскивание проводят при появлении первых признаков заболевания, повторно обрабатывают через 5–7 дней. Томаты обрабатывают настоем чеснока для профилактики фитофтороза в период завязывания плодов на второй кисти.

Чеснок используют в смесях с пижмой, полынью и бархатцами. Для приготовления настоя можно использовать стрелки чеснока, а не ценные головки.



ЛЮБОПЫТНЫЕ ФАКТЫ

## Кроты дерутся до смерти...

Крот любит просторное и удобное логовище. Для уюта и тепла устилает его сухой травой, мхом, листьями. Вокруг сооружает две прочные галереи с утрамбованными стенами. Одна, побольше, на уровне логовища; другая, малая, – над ним. Из логовища в малую галерею ведут три хода, а из нее в нижнюю – шесть. Дальше можно двигаться в любую сторону по лучевым ходам. Их целый десяток. Потом они поворачивают и вливаются в широкий и прочный главный ход. Предусмотрел крот и тайную норку: при необходимости он по ней сразу в главную магистраль попадает. Есть и специальный ход к водоему – после обильной еды всегда попить хочется. А ест крот непрестанно. За сутки больше собственного веса смолотит. Все годится: дождевые черви, слизни, личинки медведок и жуков разных. Попадутся землеройка, полевка, ящерица, гадюка – если не увернутся, съест. Забредет ненароком другой крот – драка до смерти. А потом победитель сожрет поверженного. А вот жаб крот не трогает. И растительную пищу ни за что есть не станет, хотя 12-часового голода не перенесет – погибнет. Оттого и зимой не спит. Все бегает: не попадется ли кто в старых ходах. Да и новые ходы без устали делает.

ОГОРЧАЕМСЯ НЕУДАЧЕЙ

## Огурцы стали белыми

***Когда на огуречных стеблях появился белый войлочный налет, я не придала этому особого значения. На всякий случай посыпала на растения печную золу: думала – пройдет. Не прошло. Потом, смотрю, стебли растений стали мягкими, листья начали увядать и засыхать. А сами огурцы сделались дряблыми и также покрылись белым налетом. Говорят, что это какое-то грибковое заболевание. Какое именно и как с ним бороться?***

**Альбина СОБОЛЕНКО.**

*Воложинский район.*



Ученые утверждают: это белая гниль. Она поражает почти все овощные растения. Среди мер борьбы: в открытом грунте – плодосмен, уничтожение растительных остатков, зяблевая перекопка почвы. В защищенном грунте – культурооборот; замена, дезинфекция или снятие тонкого (2–4 см) слоя грунта; поддержание в теплицах и парниках оптимальных условий для развития растений огурца; полив теплой водой и некорневая подкормка растений; не высаживать петрушку на лист в теплицах, где будут выращивать огурцы; при появлении признаков заболевания на стеблях обтирать пораженные места и затем опудривать их толченым углем, мелом либо известью-пушонкой; удалять пораженные и лишние листья в жаркие часы дня для быстрого подсыхания ран; удалять погибшие растения вместе с комом земли; посыпать вокруг растений золу (древесную либо торфяную) или толченый уголь.

**Раздел ведет агроном Федор ВЕРАВОЙША.**

Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ






Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 17.07.2017 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 24 058 экз. Заказ № 2555.